№ 17-18 (85) 12 траўня 1997 г.

# НАША НІВА

беларуская газэта. Заснаваная у 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама у 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску

... У выніку вайны насельніцтва Беларусі было штучна падзеленае на дзьве групы: тых, хто паўстаў супраць немцаў, і тых, хто бачыў у новых акупантах збаўленьне ад бальшавіцкага рэжыму. Існавала і трэцяя група. Мэтай якой было проста выжыць...

Па сутнасьці на тэрыторыі Беларусі ішла адкрытая і патаемная грамадзянская вайна зь яўнымі прыкметамі нацыянальна-вызваленчай...

Вайна, а дакладней, афіцыйная ўлада падзяліла людзей на сваіх і чужых, і нягледзячы на тое, што прайшло ўжо 52 гады, гэты падзел застаецца...

З артыкула Аляксея Літвіна – на старонцы 4.

## ЛЕГЕНДА ДРУКУ І ЛЕГЕНДЫ РОКУ

3 траўня ў вядомым менскім клюбе "Рэзэрвацыя" адбылася чарговая рок-акцыя — "Легенда друку і легенды року". "НН" сустракалася са сваімі старымі сябрамі — NRM, "Улісам" і "Новым небам". Паводле задумы, гэта і была вечарына сяброў, дзе ўсе ў роўнай ступені пачувалі сябе гаспадарамі.

Канцэртная праграма прывабіла ў клюб шмат слухачоў, гледачоў і чытачоў "НН". Разьняволенасьць пачуцьцяў, рэчытатывы лёзунгаў і добра, добра вядомыя песьні...

Мінулі гады, але не мінулі жаданьні. Сабраныя ў "Рэзэрвацыі" людзі — юнакі і дзяўчаты, мастакі і журналісты, блізкія і далёкія ад музыкі, атрымалі магчымасьць пабыць сваімі сярод сваіх.

Культура, у яе непарыўнасьці, як жывы арганізм, паўстае, калі ёсьць каму падхапіць сьпеў. У Беларусі — наш сьпеў па-над нашымі нівамі. Падхапілі. "НН" пляне правесьці яшчэ шэраг падобных акцыяў. Сачыце за рэклямай.

С.Х.

АНОНС

## РУСАФІЛЫ І РУСАФОБЫ

Сусед па вёсцы, дзед Васіль, апошні жывы зь вясковых дасавецкіх дзядоў — шчыры русафоб. "Хто заманіў майго малодшага сына на БАМ, скуль ён вярнуўся алькаголікам? —пытаецца ён. — Рускія. Ад каго ўсё гэтае піцьцё без канца, бязь меры? Ад іх. Хто забраў зямлю і загнаў у калгас? Хто сьцягаў крыжы з царквы і з ростаняў? Хто, як гналі немца, без патрэбы запаліў мой загон з жытам? Хто ў 1945-м зьнёс усе прыбускія вёскі і выкінуў людзей у голае поле, каб адгарадзіцца ад Польшчы калючым дротам, "граніцай"? І гэтак далей, і бясконца.

Нашы адукаваныя русафілы ставяць зусім іншыя пытаньні: хто выратаваў нас ад фашызму і адбудаваў зьнішчаныя гарады? Хто правёў індустрыялізацыю Беларусі? Хто навучыў нас мыцца, у прыватнасьці, у лазьні? Чыя культура самая багатая, і хто прынёс яе ў нашыя цёмныя хаты? Хто дае нам нафту і газ?

Падобная дыскусія вось ужо дзесяць гадоў як стала публічнай, і за гэты час пазыцыі дзьвюх уплывовых групаў нецалкам зьмяніліся: тых, што прагнуць вечнага шлюбу з Расіяй і тых, што дамагаюцца разводу альбо шлюбу па кароткатэрміновым разліку — зазналі значную эвалюцыю. Яны вядуць дыскусію, а дыскусія тым часам вядзе іх...

З артыкула Андрэя Дынька "Русафілы і русафобы" ў наступным нумары "НН".

ЛІТАРАТУРА

## НАЙМАЦНЕЙШЫ

Каханьне і вайна, пераадольваньне страху і чалавечая салідарнасьць кантрасна афарбоўваюць апавяданьне нарвэскага пісьменьніка Ойвіна Бальстада. "Другі фронт" праходзіў праз кожнае сэрца.

На старонцы 12.

ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ

## ЭПІКОН

Паэтычная рубрыка "Грамафон", якая, мяркуючы з пошты, мае досыць шмат прыхільнікаў — чытачоў і аўтараў, сёньня атрымлівае ў "НН" свой празаічны праціг — "Эпікон". Першыя аўтары кароткіх імпрэсіяў, замалёвак і апавяданьняў: Зьмітро Сідаровіч, В.Р., Алесь Прускі, Руслан Равяка, А.Н., Сяргей Конан, Зьміцер Сасноўскі, Алесь Белы і Генадзь Драгун.

На старонцы 10.



*У траўні, нарэшце, прыйшла вясна. Травень месяц цікавы. Актыўны месяц. Што ні травень, то нейкая імпрэза. Рэфэрэндум-садружнасьць, рэфэрэндум-супольнасьць, рэфэрэндум-саюз. Вакол буйства жыцьця — сьвяты, шэсьці, мітынгі, транспаранты, дэманстранты, амон. Дзесяць сутак Міколу Статкевічу за тое, што ўцёк з пляцу Незалежнасьці разам са сваімі сацыял-дэмакратамі плюс выкарыстаньне ненармаванага словазлучэньня "лысы клоўн". Крыху раней суткі давалі за прарыў на пляц. Вясна ідзе, спадарства. Узрушэньне пачуцьцяў. Лідэраў нацыі не пускаюць. Аднаго на захад, другога на ўсход. Але ж вясна ідзе, спадары і таварышы. Як было заяўлена — дыпляматычная блякада Захаду праравана, адбыўся візыт у Віетнам.*

*У штаб-кватэры БНФ на сьцяне прымацаваны алоўкавы малюнак: лідэр нацыі ў профіль на тле нацыянальнага сьцяга. Кранальна выглядае. Асабліва калі глядзець зь Вільні, Варшавы або Кіева.*

*Што і казаць, любіць народ сваіх герояў. Ды і ім аднаму без аднаго — ну ніяк. Гэта толькі здаецца, што дзьмуцца і коса пазіраюць, а насамрэч нічога падобнага. Любяць. Сьціпла. Па-мужчынску. Паспрабуй, прыбяры аднаго, і другому канец. Такая вось рэч. А тое, што народ падзяліўся, ну дык ня могуць жа ўсе аднаго любіць. Гэта ўжо парушэньне жанру.*

*Вясна ідзе. Час новых знаёмстваў. Час цёплых дажджоў і першага веснавога грому. Гром прагучаў. Моцны. З маланкамі выбухамі. Пашкоджаная расейская амбасада, газакампрэсарная станцыя і газапровод. Пажары, пажары...*

*Моладзь, якая хадзіла з камянямі і рагаткамі на амон, ва ўсю сілу сваіх юных лёгкіх сьпявае сёньня хіт сэзону — "Партызанаў" ад гурта NRM.*

*Знаёмствы, знаёмствы... "Наша Ніва" знаёмілася з моладзьдзю. Пры пасярэдніцтве таго ж NRM, "Уліса" і "Новага Неба". Моладзь у прыкладна чатыроста горлаў раўла — НА-ША НІ-ВА!!!*

*Кася Камоцкая знаёмілася з аршанскімі прыхільнікамі расейскага нацыяналістычнага року. Перамагла Кася і беларуская гуманітарная адукацыя.*

*Вясна ідзе. Навет у правінцыі. Лес паціху апранаецца ў зялёнае. Хутка лета.*

Алег Дашкевіч

ШУФЛЯДА

# Генэрал Вітушка

## Партызанскімі сьцежкамі — 7

У 1919 годзе ў Нясьвіжы выбухнула антыбальшавіцкае паўстаньне. Супраць паўстанцаў быў кінуты атрад чэкістаў на чале з Андрэем Пракапчуком. Бальшавікі ўварваліся ў Нясьвіж з двух бакоў і прымусілі беларускіх патрыётаў пакінуць горад. Сам Пракапчук трапіў на адной з вуліц у засаду й застаўся жывы толькі дзякуючы маладой дзяўчыне Надзі, якая папярэдзіла камандзіра чэкістаў пра небясьпеку. Неўзабаве яны пажаніліся й Пракапчук кінуў сваю чэкісцкую службу, пачаў вучыцца. Нейкі час Надзя разам з дачкою Верай жыла ў Чамярах пад Слонімам, у бацькоў мужа, пакуль ён не забраў іх у БССР. У Менску Надзя хутка захварэла й памерла... Неўзабаве па заканчэньні другой сусьветнай вайны прафэсар А.Пракапчук даведаўся, што брат Надзі камандуе беларускімі антыбальшавіцкімі партызанамі, а ягоная дачка прыходзіцца генэралу Вітушку пляменьніцай...

Ужо шосты год зьбіраю я зьвесткі пра генэрала Міхала Вітушку. Пачынаць прыходзілася з нуля, але паступова выяўляліся факты, складалася біяграфія, пісаліся артыкулы, абвяргаліся ілжывыя сьцьверджаньні пра ягоную сьмерць у студзені 1945 году. Мінулым летам мне ўдалося натрапіць на некалькі фактаў, якія шчыльна зьвязвалі М.Вітушку са Слонімшчынай. Некаторыя зь іх яшчэ мусяць быць спраўджаныя, а праўдзівасьць іншых не выклікае сумневу. Хацелася б сёньня крыху асьвятліць біяграфію нашага легендарнага генэрала.



На здымку: Генэрал Міхал Вітушка.

Міхал Вітушка нарадзіўся ў 1907 годзе ў Нясьвіжы ў сям'і мясцовага фэльчара Апанаса Вітушкі. Пра яго дзяцінства й юнацтва мне амаль нічога невядома. Пакуль не знайшоў я й пацьверджаньняў вэрсіі, што М.Вітушка меў духоўную асьвету.

Першыя дакладныя зьвесткі пра яго жыцьцё адносяцца да 1930 году, калі ён скончыў Віленскую Беларускую Гімназію. Разам зь ім матуру атрымалі гэткія ведамыя асобы як Вітаўт Тумаш, Лявон Галяк, Анатоль Сакалоў, Хведар Ільляшэвіч (апошні здаваў іспыты экстэрнам). Часопіс "Шлях моладзі" жадаў усім матурыстам "пасьпеху ў далейшых навуках і грамадзкай працы на карысьць Бацькаўшчыны Беларусі". Як аказалася, многія з названых у часопісе выпускнікоў гімназіі апраўдалі ўскладзены на іх давер, а некаторыя сталіся сапраўднымі героямі беларускага народу.

У 1930-я гады Вітушка вучыўся ў Варшаве, дзе скончыў палітэхніку. Ён быў актыўным студэнтам, уваходзіў у кіраўніцтва незалежніцкага Аб'яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў і Асьветнага таварыства беларусаў у Варшаве. Аж да пачатку ІІ сусьветнай вайны Міхал Вітушка жыў і працаваў у польскай сталіцы.

Другая сусьветная вайна спрычынілася да таго, што большасьць маладых беларускіх інтэлігентаў сталі вайскоўцамі. Ідэя стварэньня беларускага войска й адваяваньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі захапіла многіх. Беларускім афіцэрам стаў і Міхал Вітушка, які ствараў нацыянальныя вайсковыя аддзелы ва ўсходняй Беларусі (Смаленшчына, Браншчына, Магілёўшчына). Адначасова ён уваходзіў у кіраўніцтва антыфашысцкай і антыбальшавіцкай Беларускай Незалежніцкай Партыі, заснаванай кіраўніком Нацыянальнага Рэзыстансу а. Вінцэнтам Гадлеўскім. 17 лістапада 1944 г. Міхал Вітушка, атрымаўшы ад ЦК БНП намінацыю генэрала, дэсантуецца зь нямецкага самалёта на Віленшчыне. Ад гэтага часу ён распачынае арганізацыйную працу дзеля стварэньня першага партызанскага злучэньня Беларускай Вызвольнай Арміі ("Чорны Кот"). Гэтая праца была завершаная вясною 1945 году. Такім чынам, пасьля капітуляцыі фашыстоўскай Нямеччыны, у Беларусь мір яшчэ не прыйшоў. Тут толькі пачыналася партызанская вайна за вызваленьне з-пад расейска-бальшавіцкай акупацыі...

Праціг на стар. 4

# З кронікі культурнага жыцьця

Кроніка нацыянальнай культуры нашых дзён застанецца ў гісторыі спэцыфічнай церазпалосіцай рубрык: "вэрнісаж" і "забарона мастацкай выставы", "прэм'ера спэктакля" і "закрыцьцё радыёстанцыі", "новыя кнігі" і "суд над паэтам". Увогуле так ужо было пры Сталіне, у часы ГУЛАГу і Жданаўскіх пастановаў. За наступныя дзесяцігодзьдзі мы, наадварот, адвыклі ад гэтага. І вось усё вяртаецца на сваё, так бы мовіць, месца. Мастацтва зноў жорстка падзяляецца паміж канфармізмам і супраціваам, і за межамі гэтага падзелу не існуе. Аргумэнты літаратуразнаўства разглядаюцца ў якасьці судовых доказаў, а крытыка апэруе тэрмінамі юрыспрудэнцыі.

Зусім будзёна гучыць наступная інфармацыя:

13 траўня ў культурным жыцьці Беларусі адбудзецца важная падзея. У Менску пачнецца выязное паседжаньне Віцебскага абласнога суда. Чакаецца, што паэту Славаміру Адамовічу за ягоны верш "Убей президента" будзе вынесены прысуд.

Нагадаю, што крымінальная справа на Адамовіча была заведзеная ў КГБ напачатку мінулага году. Тады ў красавіку паэта арыштавалі, і ён 10 месяцаў правёў у турме, бяз права перапіскі. Спачатку — у "амэрыканцы" — сьледчым ізалятары КГБ, дзе 8 сутак трымаў сухую галадоўку і быў адпраўлены ў рэанімацыю. Потым — у Віцебскім цэнтрале.

За гэты час напісана нямала вершаў і падрабязны дзёньнік, які мы друкуем у "Нашай Ніве". За гэты час Адамовіч стаў добра вядомы ў праваабарончых арганізацыях усяго сьвету. За гэты час ёнператварыўся ў постаць першае велічыні ў сучаснай беларускай паэзіі. Сёньня, каб раўназначна выявіць сваю грамадзянскую пазыцыю, іншаму паэту спатрэбіцца ўчыніць нешта зусім неверагоднае.

Але самае, можа быць, істотнае вось што. Пасьля Адамовіцкае турэмнае творчасьці ўжо ніяк ня скажаш, што беларуская паэзія ў заняпадзе, што яна памерла або што адарваная ад жыцьця. Пасьля краху беларускай савецкай літаратуры менавіта паэзія адрадзілася першая. Я думаю, што турэмная кніжка Славаміра Адамовіча — яе рабочая назва "Пятая страфа" — стане доказам гэтага адраджэньня.

Апошнімі ў нас такія вершы пісалі Ларыса Геніюш, Васіль Супрун, Самсон Пярловіч і яшчэ сёй-той зь вязьняў сталінскага ГУЛАГУ. Хто ведае, можа гэта і была сапраўдная неадарванасьць нашае грамадзянскае лірыкі ад жыцьця. Усё, што было потым, —пра Леніна з партыяй, зрэшты, як і сёньняшнія патэтычныя вершы пра адраджэньне — усё разам выпадае — і ўзнаўляецца перарваная сувязь.

Суд над паэтам — гэта безумоўная слава для паэта і безумоўная ганьба для суда і таго рэжыму, які ён увасабляе. Паэту — разам з каталажкай і ўсімі яе пакутамі — дасца рэдкае творчае шчасьце — узьяднацца з уласным лірычным героем. Бо менавіта вобраз аўтара, а ня аўтар, атрымлівае прысуд, калі судзяць вершы. І — уяўляеце — вам выпадае пажыць жыцьцём вамі ж створанага героя. Няхай гэта нават турма. Вы — паэт, творца паралельнага сьвету, уваходзіце туды — як у іншую эпоху ці іншае вымярэньне.

Да турмы Адамовіч выпрабоўваў свайго лірычнага героя, вылепліваў яго — і таму гэта быў яшчэ не дасканалы, не зусім гатовы вобраз. Пасьля 10 месяцаў за кратамі Славамір увайшоў у рэдакцыю "Нашай Нівы" са словамі: "Фармаваньне асобы завяршылася". Завяршылася фармаваньне вобразу аўтара. Гэта значыць, што так званы малады паэт ператварыўся ў майстра слова.

Магчыма, у маіх словах вам убачыцца кашчуннасьць — усё ж чалавека засадзілі ў турму, прычым ні за што. А тут — станоўчыя высновы. Але і для Адамовіча і для ўсіх ягоных чытачоў важны якраз станоўчы вынік, а не шкадаваньне. Як ні круці, а ў сытуацыі суда над паэтам суд ніколі ня выйдзе пераможцам.

Вось чаму я назваў суд над Адамовічам важнай падзеяй у нашай нацыянальнай культуры. Вынік гэтых дзесяці месяцаў турмы — бібліятэчка паўнавартасных кніг. Акрамя зборніка вершаў самога паэта і кнігі ягоных турэмных дзёньнікаў, можна скласьці цэлую таміну матэрыялаў працэсу. Далібог гэта будзе цікавая чытанка — сумесь чалавечых норааў: энкаведысцкай карнай псыхалёгіі, разгубленасьці абывателя і стаічнага патрыятызму супраціўленцаў.

Пра вершы Адамовіча ўжо напісалі свае разгорнутыя водгукі такія мэтры айчыннага літаратуразнаўства як Алег Лойка, Міхась Тычына, Аляксей Рагуля, Пятро Васючэнка. Яны сталі экспэртамі абароны. Штосьці, мусіць, напісаў і Віктар Каваленка, прызначаны афіцыйным экспэртам суда. Згадзіцеся, цэлае сузор'е найбуйнейшых аўтарытэтаў беларускай крытыкі. А разам гэта — яшчэ адна кніга жывой крытычнай думкі, якую зноў жа ніяк не папракнеш у адарванасьці ад жыцьця. Адамовіч, такім чынам, спраўакаваў ня толькі ўласнае творчае пасталеньне, але й пэўную хвалю ва ўсёй прыснулай беларускай літаратуры.

Тымчасам 13 траўня ў Менску ўзнаўляецца судовы працэс, ад якога чакаюць канчатковага прысуду. Што ён пастановіць? Апраўдае? Ці дасьць гадоў 5-10 жорсткага рэжыму? Можна цалкам дапусьціць і першае, і другое. Калі судзяць вобраз — ацэнкі разьбягаюцца надта далёка.

А яшчэ такая разьбежнасьць моцна нагадвае практыку 30-50-х, часы ГУЛАГУ. Тады можна было атрымаць расстрэл, а прazь некалькі гадоў — даведку, што, маўляў, справа спыненая. За адсутнасьцю складу злачынства.

РЭДАКТАР

## ПОШТА

Добры дзень, "Наша Ніва"!

Мне вельмі прыемна было чытаць свае радкі на Вашых старонках, дзякуй. Але адначасова я адчула нейкі сум — быццам атрымала ліст, які сама сабе і напісала. Гэта не перабольшаньне. Гэта першы вынік экспэрымэнту над сваёй сьвядомасьцю, жаданьня далучыцца да беларускасьці. Так, генэтычная памяць дапамагае адчуваць сябе беларускай, але будзённае жыцьцё і атачэньне сяброў, родных, супрацоўнікаў і г.д. паглыбляюць пачуцьцё ўяўнасьці, "віртуальнасьці" беларушчыны. Яна ёсьць у Вас, у добрых кнігах, па "Свабодзе", на "масавых акцыях", на выставах і імпрэзах, карацей — у мастацкіх колах і палітычных рухах. Магчыма, я крыху памыляюся, але ж мае знаёмыя, дарэчы, някепскія людзі, якіх нельга аднесьці да таго ці іншага кола, напачатку ўспрымаюць маю беларускасьць са зьдзіўленьнем. Празь нейкі час — як хваробу (асабліва, калі пачытаюць мой верш), а ў лепшым выпадку — як палітычную дзейнасьць, тады я чую: "пропитана до мозга костей национализмом", "националистка". Зразумела, яны крыху памыляюцца, але ад гэтага ня лепш. Што рабіць чалавеку, які ўсьвядоміў беларускасьць? З кім яе дзяліць? Хіба гэта загана, што мая душа здаўна выпраменьвае любоў да гэтай зямлі і яе гісторыі?

Я прысутнічала на сустрэчы "НН" з чытачамі ў кінатэатры "Зьмена". Там пачуцьцё разрозьненасьці мяне не пакінула, мне нават здавалася, што ў кожнага Беларусь — свая. Але гэта не галоўнае. Пасьля сустрэчы, калі я апынулася ў нейкім іншым сьвеце зь іншай моваю, то зразумела, што са мною адбываецца: я пачала думаць па-беларуску, нават сны ў мяне цяпер беларускамоўныя, а ў навакольным сьвеце пануе расейская думка, агучаная расейскай моваю. Адсюль — абвостранае ўспрыманьне варожага стаўленьня да "нацыяналістаў", адсюль — разуменьне, што жыву ў акупацыі. Як вынік — незвычайная туга і адзінота. Вось. Трэба Вашу Ніву рабіць больш жыцьцяздольнай, я маю на ўвазе парасткі. Цяжка быць хворай адзіночкай-нацыяналісткай. На жаль, пакуты шчырых беларусаў параўнальныя хіба што з пакутамі першых хрысьціян, але ж яны часьцей зьбіраліся памаліцца.

Выбачайце за шматслоўнасьць, але пісаць ліст па-беларуску значна больш прыемна, чым размаўляць з уяўным суразмоўцам.

НАТАЛЬЛЯ ЕРАХАВЕЦ

Паважаны спадар рэдактар!

Пішу Вам упершыню, але ўжо прымаў удзел у анкеце, якую праводзіла Ваша газэта, з захапленьнем чытаю "Нашу Ніву", выпісваю яе сам і агітую іншых.

Сёньня я знаходжуся пад уплывам V зьезду ТБМ імя Францішка Скарыны. Ня мог ня выказаць свае думкі аб жахлівым стане нашай духоўнасьці.

Няправільна будзе, дасягаючы сваіх нават вельмі патрэбных мэтаў, карыстацца гераізмам свайго народа. Мне здаецца, трэба наогул перастаць выхоўваць героя, які дзеля сваёй мэты аддае жыцьцё сваё і сваіх дзяцей. Я тут згадваю Тараса Бульбу, які загінуў сам і загубіў сваіх сыноў.

Як можа быць героем чалавек, які зьнішчае жанчын і дзяцей толькі за тое, што яны іншага веравызнаньня?

Чаму, напрыклад, большасьць лічыць героем піянэра, які кінуўся на немцаў з гранатаю, а вось чачэнскага хлопчыка, які лёг пад расейскі танк, называюць фанатам?

Чаму настаўніка беларускай мовы, які вучыў дзяцей у час нямецкай акупацыі лічаць здраднікам? А забойцу, які гвалтаваў жанчын і страляў мясцовых людзей, — героем і партызанам?

Пытаньняў узьнікае так шмат што адказ можа быць адзін. Наша Беларусь зажыве лепей і ,калі нашым героем перастане быць чалавек са стрэльбаю. Калі наша дзяржаўная машына перастане есьці самых лепшых сваіх сыноў і дачок. Калі мы навучымся выхоўваць большасьць з звычайных людзей, здольных працаваць на сябе і на сваіх дзяцей. Калі зьнікне патрэба ў такім масавым гераізьме, якога цяпер патрабуюць нашыя кіраўнікі.

І яшчэ адна думка. Чалавек можа добра працаваць, калі ён паважае сябе, калі яго душа спакойная, калі псыхічна над галавою ніхто не вісіць зь бізуном.

ЛЯВОН АПАЦКА,
*рабочы, сябра ТБШ,*
*бацька трох вучняў*
*Ліда*


Здымак Уладзімера Парфянкі.

# IN MEMORIAM

2 траўня 1997 году ня стала Валерыя Шаблюка — беларускага археоляга й гісторыка. Сп. Шаблюк быў цалкам аддадзены сваёй карпатлівай навуцы, але адначасова займаў вельмі выразную грамадзянскую пазыцыю — зьяўляўся арганізатарам Свабоднага прафсаюзу ў Інстытуце гісторыі, браў актыўны ўдзел у хрысьціянска-дэмакратычным руху.

Сп. Шаблюк адкрыў цэлую сялянскую цывілізацыю. Традыцыйнымі аб'ектамі дасьледаваньня беларускіх археолягаў, якія вывучаюць XIV-XVII ст., зьяўляюцца замкі, гарады й мястэчкі. Сп. Шаблюк адпрацаваў мэтодыку дасьледаваньня такіх складаных для раскопак аб'ектаў, як сельскія паселішчы. Ён засьведчыў даволі трывалы эканамічны стан сялянскіх гаспадарак Беларусі ў XVI — першай палове XVII ст. Сп. Шаблюк давёў, што большасьць прадметаў, знойдзеных пры раскопках гарадоў і сельскіх паселішчаў як паводле сваёй тэхналёгіі, так і паводле формаў мала чым адрозьніваюцца паміж сабою. Гэта ёсьць сьведчаньнем агульнасьці матэрыяльнай культуры беларускіх земляў пэрыяду позьняга Сярэднявечча й Новага часу.

Валеры Шаблюк пражыў усяго 44 гады.

### СЬПІС АСНОЎНЫХ ПУБЛІКАЦЫЯЎ ВАЛЕРЫЯ ШАБЛЮКА:


**КНІГІ:**

Двор у Туганавічах. — Менск: Полымя, 1995.

Сельскія паселішчы Верхняга Панямоньня XIV-XVIII ст. — Менск: Беларуская навука, 1996.

**АРТЫКУЛЫ:**

Археалягічныя помнікі ў басэйне ракі Рось (разам з Н.Шаблюк) // Матэрыялы канфэрэнцыі "Музэй і разьвіцьцё гістарычнага краязнаўства". — Горадня, 1990.

Кафля з Ваўкавышчыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1989, №2.

Раскопкі на Кальвінаўцы // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1986, №4.

Раскопкі селішча // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1984, №1.

У пошуках зьніклых паселішчаў // Vieda. Працы Беларускага Інстытуту Эўропы (БНГТ). Вып. 1. — Менск, 1993.

Хозяйственные инструкции XVII-XVIII в. как исторический источник // Из истории науки и техники Белоруссии. Тезисы докладов конференции 26-27 мая в г. Минске. — Менск, 1988.

Фэадальныя пасяленьні XVI-XVIII ст. на р. Зэльвянцы // Весьці АН БССР. Сэрыя грамад. навук. 1994, №1.

# Да справы Віктара Яголды

Увесну 1996 году, пасьля падрыхтоўкі да друку матэрыяла пра дзейнасьць на тэрыторыі Беларусі нэафашыстаў з арганізацыі "русское национальное единство", я зьбіраўся напісаць артыкул пра лёс беларуса Вітольда Дзісько, закатаванага органамі КГБ БССР-СССР у Пастаўскім раёне ў 1964 годзе. Сталася, аднак, тое, што мяне самога ўзялі пад варту і зьмясьцілі ў турму КГБ РБ — за верш "Убей президента". Акрамя таго былі "арыштаваныя" філязофскі дзёньнік Вітольда, перададзены мне ў часовае карыстаньне яго роднай сястрой Геленай, і ліст зь Вільні ад жанчыны, якая блізка ведала забітага. Гэтыя дакумэнты далучаныя да справы №182, па якой праходзіць ваш пакорны слуга.

Такім чынам, маё журналісцкае расьсьледаваньне не было завершанае і не патрапіла на старонкі "НН". Аднак "справа аб забойстве Вітольда Дзісько" ў нашым спэцыфічным беларускім кантэксьце зусім лягічна перацякла ў названую ўжо "справу нумар 182". Ні адна, ні другая справы не завершаныя. І вось, на вялікі жаль, у гэтым ланцужку ўзьнікае трэцяе зьвяно — справа аб давядзеньні да спробы суіцыду (самагубства) Віктара Яголды, салдата вайсковай часткі №43064 "Е", дыслякаванай у г. Барысаве (вядомыя ў народзе "Печы"), які зьяўляецца родным сынам Гелены Яголды (у дзявоцтве Дзісько) і пляменьнікам роднаму дзядзьку Вітольду.

Першая справа завяршылася гібельлю чалавека ў чэрвені 64-га, другая сфабрыкавана карнымі органамі вясною 96-га, трэцяя "абрастае мясам" вось зараз, вясною 97-га, у часы, калі тысячы людзей, найперш маладых, выходзяць на вуліцы Менску, каб заявіць свой супраціў антыбеларускай акупацыйна-марыянэтачнай уладзе...

Днямі Гелена Яголда з дачкою Зосяй заехала да мяне, каб расказаць пра сваю бяду ды пашукаць якой рады. Расказалі яны, што, пахаваўшы якраз на каталіцкім Вялікадні сваю старэнькую бабулю, праз тыдзень ці два выбраліся наведаць сына ў войску. Прыехалі на выходныя, у суботу, калі салдаты вольныя ад службы і могуць сустракацца з роднымі. Праўда, родных салдата 5-й паказальнай роты Віктара Яголды дзяжурныя афіцэры, старшыня і сяржанты чакалі менш за ўсё. Аказалася, што Віктар знаходзіцца ў санчасьці. За некалькі дзён да прыезду маці і сястры ён ускрыў сабе вены. Пра гэтае здарэньне начальнікі так нічога толкам і не расказалі маці. І ўсё ж удалося даведацца наступнае.

Віктара, які прызываўся служыць з Пастаўскага раёну ў Горадню, па невялікім часе накіравалі ў барысаўскую вучэбку — набываць прафэсію танкіста. За тры з паловаю месяцы службы ён напісаў некалькі лістоў дадому і адзін мне. У лістах скардзіўся толькі на адно: няма з кім па-людзку пагаварыць, тупее не па днях, а па гадзінах. Зь ліста на мой адрас я зразумеў, што мой ліст, дасланы яму яшчэ да 25 сакавіка, не дайшоў. Як цяпер вядома, менавіта ў той момант Віктару і не хапала сяброўскага слова старэйшага таварыша, слова падтрымкі.

Бяру на сябе сьмеласьць заявіць, што хлопец не рызыкнуў бы "ўскрывацца", прачытаўшы мой ліст. Але ён яго не прачытаў, бо не атрымаў! Ён не атрымаў майго ліста з паштоўкай, у якой я віншую яго з 79-й гадавінай абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Пошта, я думаю, спрацавала спраўна. Дык ці не ў асобым аддзеле часткі, альбо ў кішэні старшыні, альбо ў таго аболтуса з салдатаў, які непасрэдна разносіць карэспандэнцыю гэткім жа служывым, "зацёрся" мой "нацыяналістычны" ліст? Як бы тое ні было, але ліст зьнік, прапаў, не дайшоў. А юнак узрэзаў сабе жылы.

Зыходзячы найперш з уласнага досьведу, сьцьвярджаю, што вены не ўскрываюць так сабе, спаміж іншага, "ад балды". Патрэбная асаблівая прычына плюс асаблівы склад характару, больш тонкая арганізацыя натуры, ніж у сярэдняга ўзору гомасапіенса. У турме рэжуць сябе, калі "засьвяціла" 10-15 гадоў няволі альбо "вышка", альбо калі ты сядзіш за палітыку ці ў выніку судова-сьледчай "памылкі" і адзіны выхад даказаць сваю праўду альбо невінаватасьць — гэта спасягнуць на ўласнае жыцьцё... У сучасным жа войску... У сучасным войску існуюць, прынамсі, дзьве прычыны, якія зьліваюцца ў адну: адсутнасьць належнай дысцыпліны ў падразьдзелах, бо афіцэры занятыя ўласнымі праблемамі (неўсталяваны быт, безграшоўе, "канвэрсія"), і, як вынік, жорсткая татальная дзедаўшчына, а дакладней, маральны і фізычны зьдзек адных салдат над другімі, што ня мае абсалютна ніякага дачыненьня да гэтак званай суровай армейскай школы.

У выпадку зь Віктарам Яголдам мы маем таксама дзедаўшчыну, але дзедаўшчыну спэцыфічную. Рэч у тым, што Віктар судзімы: далі пару гадоў умоўна за спробу дапамагчы маме й сястры, якія высільваюцца на калгаснай фэрме в. Мольдзевічы. У справе, у якую яго ўцягнулі старэйшыя і больш хітрыя вяскоўцы, ён аказаўся крайнім. Вось і папаў. Вядома, ніякі ён не злачынец: на жыцьцё й здароўе грамадзянаў ня квапіўся, не рабаваў, хабару не даваў і на валюце не стаяў... З-за наіўнасьці сваёй хлапечай атрымаў судзімасьць. А тут надасьпеў час у войска, у якое цяпер і судзімых, і хворых надграбаюць. І да гэтага факту можна было б паставіцца даволі спакойна, каб не адно "але". Як стала вядома, 5-я паказальная рота сфармаваная з судзімых, якія, у адрозьненьне, ад Віктара, адбылі тэрмін зьняволеньня ў калёніях і турмах. Ня ведаю, паводле якога загаду фармуюцца падобныя падразьдзелы, але што яны не ўяўляюць паўнавартасных баяздольных і падуладных загаду адзінак здаецца відавочным. Тут, зрэшты, варта ўзгадаць штрафбаты другой сусьветнай, дзейнасьць якіх яскрава паказаная ў фільме "Гу-га" (я, напрыклад, глядзеў яго два разы: у рэанімацыйным боксе шпіталю КГБ і на віцебскім цэнтрале).

Думаецца, калі ўжо зьбіраць да адной купы былых зэка, то і нагляд за такімі ваякамі неабходна наладзіць належны. На жаль, гэтага няма. Апошнія гады — а пры Лукашэнку асабліва — праз турмы й "зоны" праходзяць тысячы маладых людзей. Пасьля вызваленьня з-за кратаў дзяржава забірае іх "у боты" (гэта дзёшава й сярдзіта для сучаснага рэжыму, а прафэсійная беларуская армія яму непатрэбная) і фармуе так званыя паказальныя роты, накшталт той, дзе служыць В.Яголда. Роты ствараюцца, але належнай работы з кантынгентам не вядзецца. У такой сытуацыі і нараджаецца нова-старая традыцыя — дзедаўшчына паводле "зоны". Законы турмы ўваходзяць у армейскі быт. Беларуская армія на ўзроўні салдацкай масы імкліва ператвараецца ў прыблатнёную структуру, дзе знаходзяцца свае "паханы", "мужыкі", "пацаны", "шасьцёркі", "балацдзёры" і "апушчаныя". У такую "прыблатнёную" роту і трапіў салдат 97-га году прызыву Віктар Яголда.

Віктар — ня мамчын сынок. Гэта статны, фізычна разьвіты юнак, які не цураўся працы па гаспадарцы, займаўся папулярнымі цяпер відамі ўсходніх адзінаборстваў, не паліў і асабліва не цягнуўся да алькаголю. У лісьце да мяне ён цікавіўся, што я ведаю пра дзядзьку Вітольда, ці буду пісаць пра яго. Праўда, выходзіць так, што пад журналісцкі і грамадзкі кантроль трэба браць лёс самаго Віктара. Адказваючы на пытаньне, што прымусіла яго схапіцца за брытву й паласнуць сябе па венах, я раблю наступную выснову: у 5-й паказальнай роце в/ч 43064 "Е", якую складаюць асобы з крымінальным мінулым, над салдатам тэрміновай службы беларусам В.Яголдам пры маўклівай згодзе яго непасрэдных начальнікаў саслужыўцамі быў зьдзейсьнены маральны й фізычны зьдзек. Гэта пацьвярджаецца зьместам лістоў салдата да родных і знаёмых і яго ўласнымі словамі ў размове з маці.

... Супраць клану, асабліва крымінальнага, які "наехаў" на аднаго са сваіх членаў, можна стаяць двояка: альбо той, каму выстаўляюць прэтэнзіі, бярэ "розачку" і рэжа крыўдзіцеляў сам-першы, і тады ён рызыкуе патрапіць за краты, альбо чалавек дзеля выхаду з катастрафічнай, як на яго думку, сытуацыі ўскрывае сам сябе. Ёсьць і трэці варыянт: ахвяра здаецца і церпіць зьдзекі клану.

Як бачым, Віктар выбраў шлях мужчыны. Па маладосьці гадоў, маючы наіўную, чыстую яшчэ душу вясковага хлопца, ён ня стаў рэзаць тую сволач, якая, відаць, хацела пераўчыць яго на свой капыл. Ён запярэчыў зьдзеку над сабой іншым спосабам. Хоць, як намякнулі начальнікі ягонай маме, пры жаданьні яны могуць інкрымінаваць Віктару ўхіленьне ад службы праз *членовредительсво*. Не падабаецца ім салдат-беларус Яголда, бо ён і не такі, як усе, і ўвогуле больш у санчастцы прападае, чым служыць. А начальнікам жа добра вядома, што як у турме зьняволены, так і ў войску радавы пры аслабленьні імунітэту пачынаюць часта хварэць. Асабліва дрэнна зажываюць парэзы, нават нязначныя драпіны на целе, зьяўляюцца шматлікія захворваньні скуры. Урэшце, калі салдат яўна хворы, яго трэба лячыць.

З начальнікаў непасрэдна мелі размову з маці Віктара нехта Манукян і ротны Аляксандар, які свайго прозьвішча не назваў...

Дзедаўшчына, як форма выхаваньня маладога папаўненьня, існавала і ў савецкім войску. Салдат першага году службы часьцей бываў у нарадах, часьцей мыў казарму ці танк пасьля стрэльбаў. Але калі саслужыўцы твайго ж прызыву прымушаюць цябе есьці соль, як тое было ў выпадку зь Віктарам, тут ужо не дзедаўшчына, а катастрофа...

Думаю, справай Віктара Яголды варта зацікавіцца праваабарончым арганізацыям. Я паспрабую напісаць Віктару яшчэ адзін ліст — з надзеяй, што гэтым разам адрасат яго атрымае.

Для тых, хто захоча маральна падтрымаць салдата Віктара Яголду ў яго нялёгкім стаяньні за сваю чалавечую, беларускую годнасьць, падаю адрас вайсковай часткі і адрас маці салдата: 220120, Менская вобласьць, г. Барысаў-13, в/ч 43064 "Е", Яголду Віктару; Віцебская вобласьць, Пастаўскі раён, п/а Ярэва, в. Мольдзевічы, дом 11, Яголдзе Гелене.

**Славамір Адамовіч**

# Да справы Ўл. Кудзінава

Ужо трэці месяц знаходзіцца ў Берасьцейскай турме без вынясеньня прысуду нядаўні дэпутат ВС Беларусі 13-га скліканьня Ўладзімер Кудзінаў. Ён быў адным з найбольш актыўных прадстаўнікоў апазыцыі ў ліквідаваным Лукашэнкам парлямэнце.

Ул.Кудзінаў нарадзіўся ў вёсцы Тапежыцы Слуцкага раёну. У 1981 годзе скончыў інжынэрна-эканамічны факультэт Беларускага палітэхнічнага інстытута. Адмовіўшыся застацца ў інстытуце, вярнуўся ў Івацэвічы, дзе працаваў спачатку як юрыдычны кансультант і галоўны бугальтар. У 1990-91 стаў выконваць абавязкі галоўнага падатковага інспэктара.

Дасягнуўшы досыць высокага становішча, Кудзінаў вырашыў разьвітацца з кар'ерай дзяржаўнага чыноўніка і заняўся гаспадарчай дзейнасьцю. З 1992 году ён стаў дырэктарам гандлёва-прамысловай фірмы "Івацэвічы". І за тры гады ягонага кіраўніцтва фірма зрабілася адным з найбуйнейшых прыватных прадпрыемстваў Берасьцейшчыны.

Не зважаючы на інфляцыю ды непрыхільную дзяржаўную палітыку ў дачыненьні да прыватных прадпрыемстваў, Кудзінаў заняўся гадаваньнем жывёлы, стварыў у Івацэвіцкім раёне сетку з 27 крамаў. Фірма "Івацэвічы" пастаўляла насельніцтву ня толькі тавары, што маглі прынесьці хуткі прыбытак, але й такія, напрыклад, як хлеб ці запалкі.

Жыхары Івацэвічаў узгадваюць, што пасьля даваенных часоў у раёне ўпершыню зьніклі праблемы з набыцьцём мясных вырабаў любых гатункаў. У крамах Кудзінава кошты былі значна ніжэйшыя, чым у дзяржаўных. Гэта, зразумела, раздражняла гарадзкія ўлады.

Гаспадарка Кудзінава налічвала каля 1000 кароваў ды сьвіньняў. Фірма "Івацэвічы" пачала будаваць вялікі жывёлагадоўчы комплекс у вёсцы Гічыца, адчыніла аўтазапраўку. Зь цягам часу фірма пашырыла сваю дзейнасьць за межы Івацэвіцкага раёну і адчыніла краму, аўтазапраўку і аўтастаянку ў Берасьці.

Ня меншую ўвагу Кудзінаў надаваў працы грамадзкай, падтрымліваючы недзяржаўныя арганізацыі, службы здароўя, касьцёл і царкву, проста людзей, якім патрэбная дапамога. Кудзінаў фундаваў навучаньне ў БДУ для 8 сваіх землякоў. Толькі ў 1995 годзе на гэтыя мэты былі выдаткаваныя 100 млн. рублёў (ці каля 10 тыс. даляраў).

Калі ў 1995 годзе група журналістаў зь мясцовай раёнкі была звольненая рэдактарам з-за ўнутранае цэнзуры, менавіта Ўладзімер Кудзінаў дапамог ім заснаваць уласную газэту. "Газэта Ўладзімера Кудзінава" пачала выходзіць два разы на тыдзень зь верасьня 1995 году і хутка стала вельмі папулярнай. Пазьней з-за перасьледу ўладаў рэдакцыя зьмяніла назву на "Газэту для вас", але, застаўшыся без свайго апекуна, сутыкнулася зь вялікімі фінансавымі праблемамі.

У канцы 1995 году Кудзінаў вырашыў заняцца палітыкай. У лістападзе гэтага ж году, не далучаючыся ні да якіх партыяў, ён распачынае сваю выбарчую кампанію. Ён казаў: "Мая партыя — гэта прафэсіяналы, незалежна ад іх палітычных поглядаў". У сваёй праграме Кудзінаў дэкляраваў перадачу зямлі людзям, што працуюць на ёй, праз стварэньне ў калгасах і саўгасах акцыянэрных таварыстваў; патранаваньне мясцовай прадукцыі праз адпаведную падатковую палітыку дзяржавы; шанаваньне грамадзянамі Беларусі мовы, традыцыяў, гісторыі і правоў нацыі; наданьне беларускай мове статусу дзяржаўнай; бескампрамісную барацьбу са злачыннасьцю і карупцыяй; сацыяльнае забесьпячэньне вэтэранаў, інвалідаў ды студэнтаў.

Аднак адміністрацыя прэзыдэнта, а тым больш Івацэвіцкія прадстаўнікі прэзыдэнцкае вэртыкалі гэтае філязофіі не разумелі. Посьпех фірмы "Івацэвічы" быў нявыгадны для ўсяе мясцовае эліты. На іхных вачах дэманстравалася магчымасьць добра гаспадарыць і мець з гэтага прыбытак.

Канфлікт зь мясцовай адміністрацыяй пачаўся напрыканцы 1995 году, калі Кудзінаў вырашыў балятавацца ў ВС. Кіраўнік Івацэвіцкай падатковай інспэкцыі К.Мельнікава пастанавіла правесьці праверку фірмы "Івацэвічы".

Падатковая праверка фірмы "Івацэвічы" была на карысьць і вышэйшай уладзе, якой незалежны кандыдат быў, відавочна, не да густу. Праводзіла праверку каля 100 чалавек. Натуральна, дзейнасьць фірмы на сур'ёзны тэрмін была паралізаваная. Галоўнай мэтай правяральшчыкаў было знайсьці нейкі "кампрамат" на фірму. Адначасова раённыя ўлады вырашаюць забраць у фірмы дзяржаўную зямлю, дзе расьціліся кармы для жывёлы. Зямля гэтая не была патрэбная ўладам, бо да сёньняшняга дня пустуе. Але патрэба пашкодзіць фірме "Івацэвічы" была большай за магчымую карысьць. Гэта быў моцны фінансавы ўдар па фірме, бо дзяржаўныя кармы для жывёлаў былі такія дарагія, што жывёлагадоўля перастала прыносіць прыбытак. Увесь статак давялося зьнішчыць. На працягу 1996 году фірма "Івацэвічы" прайшла праз усе магчымыя праверкі: ад падатковае інспэкцыі да КГБ.

У парлямэнце Кудзінаў супрацоўнічаў з дэпутацкім аб'яднаньнем "Грамадзянскае дзеяньне", але ў склад партыі не ўвайшоў. У лістападзе 1996 году фірма канчаткова заняпала. Як дэпутат, Уладзімер Кудзінаў падпісаўся пад прапановай імпічмэнту прэзыдэнта Лукашэнкі. У канцы 1996 году будынак фірмы перайшоў у дзяржаўную ўласнасьць. Усе крамы фірмы былі зачыненыя. Каля 300 чалавек згубілі працу.

Уладзімер Кудзінаў паспрабаваў ўратаваць сваю справу, распачаўшы экспарт мяса ў Расею. Аднак і гэтая дзейнасьць зрабілася немагчымай. 4 лютага сёлета транспарт фірмы "Івацэвічы" быў затрыманы на мяжы. На мытню быў выкліканы Кудзінаў, і пасьля некалькіх гадзінаў гутаркі яму давялі, што невялікая сума грошай спрасьціла б справу. Такія сытуацыі ў Беларусі існуюць паўсюдна і штодзённа, але калі Кудзінаў вырашыў заплаціць гэтую суму, яго арыштавалі. З таго часу ён нават ня бачыўся зь сям'ёй. Жыхары Івацэвічаў былі вельмі абураныя і за адзін дзень сабралі ў падтрымку свайго дэпутата 511 подпісаў. Але ліст застаўся па-за ўвагай.

Абурэньне жыхароў дагэтуль вельмі моцнае. Ня толькі зьнішчаная танная і добрая сыстэма забесьпячэньня насельніцтва прадуктамі, зьліквідаваныя працоўныя месцы, зьнікла добрая газэта, але перадусім за кратамі апынуўся абраны народам прадстаўнік, якому давяралі і які сапраўды займаўся праблемамі людзей. Жыцьцё Кудзінаў прысьвяціў сваёй маленькай радзіме і яе насельніцтву. Ягоны жыцьцёвы дэвіз — сумленнасьць, адкрытасьць, прафэсіяналізм. У краіне, дзе прэзыдэнцкая палітыка вядзе да татальнай карупцыі чынавенства, без прыгавору за кратамі знаходзіцца чалавек, якога вымушалі даць хабар. Ён пазбаўлены ўсялякай надзеі на справядлівы суд, бо прыгавор над ім ужо вынесены.

**Павал Казанэцкі**

# Арыштаваныя ў Берасьці

Растуць шэрагі будучых вэтэранаў вызвольнага руху. У Берасьці арыштаваныя студэнты гістфаку ўнівэрсытэту Юры Шульган і Алесь Марачук, якія былі сярод заснавальнікаў незалежнай студэнцкай суполкі "Маладзік". Сфабрыкаваныя абвінавачаньні да сьмешнага тыповыя, але пры гэтым цягнуць на крымінал: у іх фігуруюць нейкая торба з чырвона-зялёнымі сьцягамі, надпіс "Не палохайце нас NATO, а лепш выдайце зарплату" і супраціў міліцыянтам. У месьце кажуць, што чарговае паляваньне на ведзьмароў выкліканае тым, што невядомыя зухі сьцягнулі чырвона-зялёныя сьцягі ня толькі зь дзяржаўных установаў, але і з будынка КГБ.

Паколькі з крыніцаў у кіраўніцтве ўнівэрсытэту стала вядома, што высокія інстанцыі зь Менску ціснуць, каб Юрыя і Алеся выключылі "в назидание" астатнім студэнтам, жонка Юрыя і сябры сярод моладзі і выкладчыкаў узяліся зьбіраць подпісы студэнтаў супраць гэтага. За першыя два дні сабрана каля 500.

**Андрэй Дынько**

# Генэрал Вітушка

*Працяг са старонкі 1.*

Апошнім часам мне ўдалося выявіць даволі шмат успамінаў пра генэрала Вітушку й ягоную партызанскую дзейнасьць. Частка зь іх друкавалася ў нямецкіх газэтах, а пасьля перадрукоўвалася беларускай эміграцыйнай пэрыёдыкай. Асабліва шмат успамінаў пра генэрала Вітушку пакінулі немцы — партызаны "Чорнага Ката", якім удалося перабрацца на Захад. Пэтэр А. ўспамінаў: "Вітушка — чалавек сярэдняга росту, крамяны, з кучаравымі валасамі... штодня праводзіць са сваімі камандзірамі аддзелаў сытуацыйныя канфэрэнцыі. Ад розных неспадзевак яго ахоўвае варта — малапрыкметныя хлопцы. Удзень і ўначы яны заўсёды напагатове, пільнуючы каля радыёвых апаратаў тыпу "Добра" і "Цэзар"... Вітушка ёсьць усюды і... нідзе. Заўсёды мае тысячы розных намыслаў. За кароткі, параўнаўча, час здолеў ён згуртаваць навакол сябе блізу 50 000 партызанаў".

Другі немец пісаў: "(у ваколіцах Коўна) ўпершыню спаткаўся я зь Вітушкам — камандзірам партызанаў, перад якім усе маюць страх і які мяне дапытваў. Ён ёсьць сярэдняга росту, чорнавалосы й мае вельмі хуткі пагляд... Вітушка зьяўляецца фанатычным праціўнікам бальшавізму. Ён хоча змагацца ўсімі сродкамі за незалежнасьць свае беларускае Бацькаўшчыны... З Коўна я быў адкамандзіраваны для выкананьня майго першага заданьня. Я прыбыў у Вільню й вельмі зьдзівіўся, што гэты такі вялікі горад выглядаў, як бы быў партызанскім гняздом. Мы маглі тут даволі свабодна рухацца. Дзяржбясьпека й паліцыя ня маюць адвагі пачынаць што-небудзь супраць людзей Вітушкі, бо баяцца яго помсты, аб чым ужо маюць яны добрае дасьведчаньне. На буфэрах таварнага цягніка мы выехалі зь Вільні ў Ліду. Цэлы гэты адрэзак ахоўваецца паліцыяй і войскам. Нам не рабілі нічога, бо мы мелі адпаведныя паперы (зразумела, сфальшаваныя), а да гэтага такі спосаб падарожжа тут зусім звычайны". (Цытуецца паводле нямецкай газэты "Abendpost", 11 Dezember 1948.)

Сустрэчу зь Вітушкам апісвае ў сваіх успамінах і Д.Гасмюлер. Ён цьвердзіць, што некаторы час штаб-кватэра Вітушкі знаходзілася ў Вільні. Сустрэча гэтая адбылася ў "добра абсталяваным асабняку ўсё яшчэ прыгожае Вільні". "Вітушка сядзеў за пісьмовым сталом, — успамінае Гасмюлер, — як дырэктар нейкага прадпрыемства, безь ніякіх таямніцаў, якімі звычайна ўпрыгожваюць іншых партызанаў за "зялезнай заслонай". Прывітаўшыся, ён сказаў:

— Я вельмі рады, што вы трапілі да нас. Назначаем вас кур'ерам і сувязным. Думаю, што на нуду ня будзе часу.

Ён кіўнуў галавой і я мог ісьці. Вось гэта быў Вітушка, за галаву якога Саветы вызначылі велізарныя прэміі. Адвага, зь якой вёў ён свае справы, імпанавала мне". (Цытуецца паводле публікацыі ў газэце "Зважай", №2, 1978.)

На пошукі генэрала М.Вітушкі былі кінутыя вялікія сілы, але ўсе высілкі МГБ ні да чаго не прыводзілі. Калі спачатку бальшавікі распаўсюджвалі ўлёткі ў справе "поимки" або забіцьця "бандита Витушки", дык пасьля ў сваіх афішках пачалі заклікаць генэрала Вітушку й ягоных намесьнікаў Ахрэма й Шукайловіча да "пераходу" на іхны бок. У бясьсільнай злобе кідалі Саветы супраць "Чорнага Ката" цэлыя дывізіі з самалётамі, танкамі, ужывалі атрутныя газы... Пасьля адной з гэткіх карных апэрацыяў Міхал Вітушка пісаў: "Трэці раз мы перамаглі бальшавіцка-акупанцкую аблогу і трэці раз засталіся пераможцамі ў няроўным баі, як будзем пераможцамі і ў апошняй бойцы, гонячы маскаля ў Маскву. Вольная беларуская дружына яшчэ дыша і жыве, а вянок геройства вакол галавы беларускіх партызанаў, адзіных вольных людзей на Бацькаўшчыне, ужо цяпер зіхаціць вясёлкаю за гэтыя багатыя геройствам бойкі з акупантам. Крывавячыся ў зацятых баёх, далучаюцца да дарагіх ценяў палеглых за волю змагароў нашыя слаўныя сябры, але беларускія партызаны вытрымалі і вытрымаюць. Вытрымалі мы і гэты раз, хоць лютасьць ворага і кінутыя ім у бойку сілы пераходзілі ўсё дагэтуль бачанае. Нас не перамаглі нават кінутыя ў бой танкі і самалёты... Побач з намі ў гэтай бойцы стаялі і нашыя ўкраінскія ды нямецкія сябры і, у найкрытычнейшы момант, калі здавалася, што неба зьмяшалася зь зямлёю, мы перамаглі толькі поўным даверам адзін аднаму. І разам з гордасьцю памяць палёгшых герояў мы атрымліваем гордасьць і за беларускага партызана — народнага ваяку за праўду і волю — агулам". (Часопіс "За Волю", № 16, 7 лістапада 1949.)



На здымку: кіраўніцтва БНП на эміграцыі (зьлева направа): Міхась Зуй, Дзьмітры Касмовіч, Юры Жывіца.

Летам 1952 году каля Слоніма праходзілі буйныя вучэньні войск Беларускай вайсковай акругі. Як сьведчаць старажылы, сотні савецкіх вайскоўцаў былі параненыя й забітыя за час іх правядзеньня. Адзін дзед прыпамінаў, што нібыта загінуў нават савецкі генэрал. Я зацікавіўся гэтым і даволі хутка знайшоў успаміны малодшага сяржанта Аляксандра Крука, што друкавала мюнхенская "Бацькаўшчына" ў 1956 годзе.

Аказалася, што вялікія ахвяры гэтых вучэньняў не былі выпадковымі. Усё пачалося ў першы дзень манэўраў а чацьвертай гадзіне. "Два чалавекі з "Чорнага Ката" (звычайна там гаворыцца "чорная кош-

***Паважаная Рэдакцыя!***

***Пішу з нагоды прыкрай памылкі, што дапусьціў сп. Дзярновіч у "Спробе сваёй гульні" ("НН", 24 сакавіка). Рэч у тым, што "камандзіра Навагрудзкага коннага эскадрону паліцыі Б.Рабухі" не існавала ў прыродзе. У ЦК БНП уваходзіў Барыс Рагуля, які, сапраўды арганізаваў у Навагрудку Беларускі эскадрон, але не як паліцэйскую адзінку, а вайсковую. Наколькі я ведаю, упершыню гэтую памылку зрабіў гісторык Ул.Гуленка ў сваім артыкуле пра БНП у 1-ым томе ЭГБ.***

***Барыс Рагуля і цяпер працягвае змаганьне за незалежнасьць Бацькаўшчыны, але ўжо як намесьнік Старшыні Рады БНР.***

**З павагаю Сяргей Ёрш**

*Слонім, 26.03.97.*

# Аб праўдзе гісторыі

## *Ці асобныя заўвагі з нагоды артыкулаў Сяргея Ярша і Ігара Пушкіна, апублікаваных у шэрагу нумароў "Нашай Нівы"*

Відаць, няма патрэбы на старонках "НН" шмат казаць пра важнасьць такіх паняцьцяў як "праўда гісторыі" ды "гістарычная адукаванасьць" як асобных грамадзян, у тым ліку дзяржаўных і палітычных дзеячоў, так увогуле грамадзтва ў цэлым. Агульным тонам сваіх публікацыяў "Наша Ніва" значна адрозьніваецца ад "афіцыйных выданьняў", якія зноў вяртаюцца ў звыклую "зону" былога "единомыслия", толькі цяпер "генэратарам ідэі" зьяўляецца не ЦК, а кіраўнік дзяржавы і, магчыма, яго адміністрацыя. Любы адукаваны чалавек, нават далёка знаёмы з гісторыяй, разумее, што гэта значыць і да чаго гэта можа прывесьці.

Гістарычная адукаванасьць прадугледжвае, натуральна, веданьне гістарычных фактаў пра тыя ці іншыя зьявы і падзеі мінуўшчыны, пра дзеяньне ці бязьдзеяньне асобных людзей, палітыкаў, партыяў, калектываў і г.д. Чым большы дыяпазон гэтых фактаў, чым большая адкрытасьць інфармацыі, тым большыя шанцы набліжэньня да гістарычнай праўды.

Я нагадваю цяпер пра банальныя рэчы, але пра іх трэба гаварыць сёньня, таму што сёньня назіраюцца такія небясьпечныя зьявы, як абмежаваньне доступу да інфармацыі, хаваньне фактаў, ідэалягічная апрацоўка зноў уводзіцца ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Не сакрэт, што ў савецкі час патаемна дзейнічаў старажытны рымскі "закон аб асуджэньні памяці", калі падлягала забыцьцю тое, што было не даспадобы чарговаму "кесару". Падобна, што гэты "негалосны закон" робіцца, ці нават можа быць зацьверджаны "дэкрэтам", сапраўдным законам нашага жыцьця.

Праўда гісторыі — катэгорыя шматмерная, у чымсьці загадкавая і нават гарэзьлівая. Мы ўвесь час да яе набліжаемся, а яна увесь час фатальна высьлізвае ад нас, каб потым прыйсьці больш складанаю.

Наша бяда — і грамадзтва, і гісторыкаў, — што нас прывучылі да гісторыі аднамернай, вычарпальна яснай і простай.

Прыходзіць на памяць выраз "адлюстроўваецца, як у кроплі вады". З аднаго боку, кропля можа быць выкарыстаная як люстэрка, з другога боку, выкарыстаньне мікраскопу пакажа яе багатае ўнутранае жыцьцё, а выкарыстаньне хімічных мэтадаў пакажа яе фактычны хімічны стан.

Я ня ставіў за мэту рэцэнзаваць артыкулы С.Ярша і І.Пушкіна. Мне хацелася толькі зьвярнуць увагу і пагаварыць ня толькі пра шматмернасьць гістарычнага працэсу, але й пра шматмернасьць яго ўспрыманьня ў гістарычнай памяці народа. Ні для каго не сакрэт, што тая ці іншая гістарычная падзея неадэкватна ўспрымаецца рознымі катэгорыямі людзей, асабліва гэта датычыць таталітарных грамадзтваў і грамадзваў з пануючай ідэалёгіяй.

У свой час А.Адамовіч, Я.Брыль і У.Калесьнік праехалі па Беларусі і зьявілася пранізьлівая горкай праўдай споведзь "Я з вогненнай вёскі". Ня менш уражвае і таленавіты запіс С.Алексіевіч "У вайны не жаночае аблічча". Думаю, што таленавіты літаратар, праехаўшы сёньня па былых партызанскіх вёсках ці былых "гітлераўскіх", "паліцэйскіх", "уласаўскіх" гарнізонах, знойдзе ў гістарычнай памяці мясцовых жыхароў мноства тэм, пра якія не прынята было гаварыць раней.

На вясковых могілках на Радаўніцу я сустрэў старога знаёмага. Ён быў на магіле маці — былой партызанскай сувязной, сувязнымі былі таксама яго бацька і старэйшая сястра. Я спытаў, чаму маці пахаваная асобна ад бацькі. Ён патлумачыў, што бацька памёр у 50-я гады і яго пахавалі побач з братам, якога забілі партызаны. Дзядзька быў з моцных мужыкоў, меў пяцёра дзяцей. Калі ноччу прыйшлі нейкія партызаны і сталі забіраць апошнюю карову, дзядзька схапіў сякеру і пачаў крычаць на ўсю вуліцу, што нават немцы гэтага не зрабілі... Праз колькі дзён па яго прыйшлі і запрасілі да камандзіра. Знайшлі яго зусім выпадкова ў лесе недалёка ад вёскі, пасечанага на кавалкі...

Іх вёсачка — Вадапой, была пасярэдзіне паміж нямецка-паліцэйскім гарнізонам і партызанскай зонай. Днём тут шчыравалі немцы, а ноччу прыходзілі партызаны. Праўда аб гэтых вёсках, якія былі пасярэдзіне, а таксама аб тых, якія былі "гарнізонамі", яшчэ чакае свайго распаведу.

Неяк нядаўна мне давялося пабываць у адной зь вёсак на Крупшчыне, дзе ў вайну доўгі час стаяў так званы ўсходні батальён "Бярэзіна". Дзякуючы гэтаму вёска захавалася амаль цалкам, зь яе менш чым зь іншых было вывезена людзей на працу ў Нямеччыну. Сталаваньне батальёна пакінула яшчэ адну праблему — больш за 20 дзяўчат і маладзіц нарадзілі ад "усходнікаў" дзяцей. А колькі ў Беларусі засталося дзяцей і сваякоў былых паліцэйскіх, старастаў, бургамістраў, былых сяброў Беларускай Самапомачы, Беларускай Самааховы, жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны і іншых.

Абставіны склаліся такім чынам, што ў выніку вайны насельніцтва Беларусі было штучна падзеленае на дзьве групы: тых, хто патаемна і адкрыта паўстаў супраць немцаў, і тых, хто бачыў у новых акупантах збаўленьне ад бальшавіцкага рэжыму. Гэта вельмі ўмоўны падзел. Зразумела, што былі асаблівасьці, як у першай, так і ў другой групе. Існавала і трэцяя група. Мэтай якой было проста выжыць.

Па сутнасьці на тэрыторыі Беларусі ішла адкрытая і патаемная грамадзянская вайна зь яўнымі прыкметамі нацыянальна-вызваленчай. Маецца на ўвазе перш за ўсё дзейнасьць беларускіх, польскіх, украінскіх, літоўскіх і латыскіх вайскова-нацыянальных фармаваньняў.

Вайна, а дакладней, афіцыйная ўлада падзяліла людзей на сваіх і чужых, і нягледзячы на тое, што прайшло ўжо 52 гады, гэты падзел застаецца. Больш за тое, падзел грамадзтва сёньня вельмі патрэбны некаму наверсе.

Увесь сьвет даўно адмовіўся ад падобнага падыходу. Бяз гэтага немагчымае грамадзкае адзінства ў дзяржаве. Бяз гэтага немагчымае асэнсаваньне велічыні трагедыі нашага народа ў мінулай вайне, усяго таго, што ён перанес з-за злачынстваў, антычалавечых бальшавіцкай і фашысцкай ідэалёгіяў і рэалізацыі іх на практыцы.

Таму я хацеў бы асабліва падтрымаць ініцыятыву "Нашай Нівы" аб стварэньні Архіву Найноўшай Гісторыі. Прыклад суседняй Польшчы гаворыць пра тое, што такія праекты магчымыя на ўзроўні грамадзянскіх ініцыятываў. У Польшчы ужо шмат гадоў існуюць інстанцыі, якія займаюцца зборам і публікацыяй успамінаў простых людзей пра гітлераўскія і бальшавіцкія злачынствы ў адносінах да палякаў, пра ўдзел польскага насельніцтва ў руху Супраціву і г.д. Гэтыя матэрыялы шырока асьвятляюцца ў розных часопісах і кніжках.

Нельга не вітаць публікацыі на старонках "НН" матэрыялаў пра малавядомыя старонкі гісторыі нашае Бацькаўшчыны. На добры лад, каб гэта было як у людзей, кожны больш менш значны горад, кожны раённы цэнтар павінен мець свой краязнаўчы часопіс, няхай бы ён выходзіў толькі раз на год, у якім друкаваліся б як дакумэнты, так і ўспаміны розных людзей пра важнейшыя падзеі гісторыі свайго краю.

**Аляксей Літвін**

ка"), — успамінае А.Крук, — пераадзетыя ў форму савецкіх жаўнераў, як патрулі, спынілі машыну генэрал-лейтэнанта, камандуючага Беларускай акругай, і пад сілай зброі забралі генэрала й ягонага ад'ютанта з машыны ды з завязанымі вачыма павялі іх у лес. Цераз колькі часін гэтыя партызаны вярнуліся адтуль пераадзетыя ва ўніформы двух арыштаваных імі савецкіх афіцэраў і на працягу паўтары гадзіны камандавалі манэўрамі. Рабілі ўсё наадварот, але вельмі хітра. Манэўры былі запляназаныя шырока й адбываліся з войстрай зброяй, як на фронце. Вынікі пераблытанае акцыі далі сябе зараз жа адчуць. Машыны не спраўляліся вазіць у санчасьці раненых і пабітых ці падушаных. За паўгадзіны ўсе санчасьці былі перапоўненыя... Характэрна, што ў часе, калі генэрал "Чорнага Ката" камандаваў манэўрамі, ён прыймаў таксама, не выходзячы з машыны, рапарты падпарадкаваных яму высокіх афіцэраў..."

Толькі выпадкова Вітушка быў выкрыты й арыштаваны. Аднак, у той жа дзень ён быў абменены на генэрал-лейтэнанта С.Цімашэнку. Пазьней савецкія вайсковыя гісторыкі пісалі: "Серьёзной проверкой явилось крупное общевойсковое учение, состоявшееся в округе в 1952 г. Оно показало, что воины научились действовать во всех видах боя, умело использовать опыт войны, новые технические средства, внося свой вклад в дело дальнейшего повышения могущества Родины..." (Цытата з кнігі "Белорусский Военный Округ".)

Пра далейшы лёс генэрала Вітушкі існуе некалькі вэрсіяў. Пэўна толькі тое, што падпольле й партызанка Беларускае Незалежніцкае Партыі актыўна змагалася з акупантамі да 1956 г. Праўдападобна, што й Вітушка заставаўся на Бацькаўшчыне аж да часу здушэньня Вугорскае рэвалюцыі, калі стала відавочнаю беспэрспэктыўнасьць далейшае барацьбы...

Вельмі абмежаванае кола людзей ведала тайну зьнікненьня М.Вітушкі. На некалькі гадоў я спазьніўся й не застаў у жывых стрыечнага брата Вітушкі генэрала Дзьмітрыя Касмовіча (псэўданім "Каршун", старшыня Замежнага сэктару ЦК БНП). Здолеўшы навязаць сувязь з прэзыдэнтам БЦР, сябрам ЦК БНП Міхасём Зуём, я не пасьпеў зь ім сустрэцца, а ў лістах ён ня мог напісаць праўды (Зуй памёр у 1995 годзе)... Але яшчэ ёсьць спадзеў, што ў бліжэйшай будучыні "тайна Вітушкі" будзе адкрытая, і гісторыкам ня прыйдзецца больш ставіць замест даты ягонае сьмерці пытальнік.

**Сяргей Ёрш**

# Іншы вобраз

**Водгукі й заўвагі на матэрыялы "Шуфляды", прысьвечаныя II сусьветнай вайне й першым гадам пасьля яе, сьведчаць пра існаваньне гістарыяграфічнай праблемы суаднясеньня такіх катэгорыяў як Беларусь і II сусьветная вайна ды яе спадчына. Увогуле, пра ваенную тэматыку напрацаваная вялікая колькасьць літаратуры. Тэма вайны стала дойнай кароваю для афіцыёзнай ідэалёгіі. Але па-ранейшаму немагчыма цалкам ацаніць трагічныя наступствы II сусьветнай вайны для Беларусі.**

Апроч таго, створаная пра вайну гістарыяграфія ў факталягічным сэнсе далёкая ад дасканаласьці й паўнаты. Для камэнтаваньня сюжэту пра Беларускую Незалежніцкую Партыю ("НН", №11-12, 1997) з Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі я ўзяў толькі адзін фрагмэнт — пра заснавальнікаў БНП. І адразу некалькі памылак. Сапраўды, Барыс Рагуля зблытаны з Б.Рабухам; у Навагрудку Барыс Рагуля меў дачыненьне да стварэньня беларускай вайсковай адзінкі, а не паліцыйнай.

Гэтая гісторыя з памылкаю сьведчыць пра тое, што Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі нельга давяраць да канца. Праўда, тут праявіліся й агульныя мэтадычныя праблемы ўсёй беларускай гістарыяграфіі, беднасьць гэтай дысцыпліны. Бо артыкулы ў энцыкляпэдыю пішуцца пасьля таго, як тая ці іншая тэма адносна добра распрацаваная гістарыяграфічна й апрабаваная ў іншых публікацыях. У беларускіх жа ўмовах для энцыкляпэдыі дасьледчыкі вымушаныя пісаць на некаторыя тэмы ўпершыню, без адпаведнай папярэдняй іх апрацоўкі ў гістарыяграфічнай лябараторыі. Бо такіх тэмаў тут раней папросту не йснавала!

Ня ўсе падзеі, апісаныя Сяргеем Яршом, могуць быць дапоўненыя дакумэнтальна. Так, ніводзін з экспэртаў, да якіх мы зьвярнуліся, не пацьвердзіў сюжэт з генэралам Цімашэнкам на вайсковых вучэньнях 1952 году (глядзі публікацыю С.Ярша ў гэтым нумары "НН"). Але сабраныя й сыстэматызаваныя ўспаміны зьяўляюцца жывым зьлепкам з гісторыі. Можна казаць пра вобразнае бачаньне гэтай гісторыі.

Таму праца па зьбіраньню ўспамінаў набывае асаблівую важнасьць для беларускай гуманістыкі. Такая праца адкрывае ня толькі новыя факты, але й новыя тэмы. Часам, пры параўнаўчым аналізе з дакумэнтальнай гісторыяй, некаторыя факты не знаходзяць пацьверджаньня. Не ва ўсіх выпадках гэта значыць, што такіх фактаў не йснавала. Нават калі вусная гісторыя скажае факты, гэткія скажэньні, у адрозьненьне ад скажэньняў у прафэсійнай гістарыяграфіі, зьяўляюцца фальклёрным пераасэнсаваньнем фактуры. Гістарыяграфія ж у выпадках скажэньня займаецца фальсыфікацыяй.

**Алег Дзярновіч**

ДАДАТАК ДА ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ

# КУРАПАТЫ

"Наша Ніва" працягвае публікацыю навукова-інфармацыйных артыкулаў, выгнаных з Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі (глядзі "НН" №15-16, 1997). Гэтым разам тэкстам-вандроўнікам стаў артыкул археоляга Міколы Крывальцэвіча "Курапаты" для чацьвертага тому Энцыкляпэдыі.

Спачатку аўтару было прапанавана толькі скараціць артыкул, праўда, самі супрацоўнікі выдавецтва не пазначылі тыя фрагмэнты, якія можна было б зьняць з тэксту. М.Крывальцэвіч матываваў прапанаваныя ім структуру й зьмест артыкула тым, што Курапаты — адзінае ў Беларусі дастаткова дасьледаванае месца масавых пахаваньняў ахвяраў рэпрэсіяў бальшавіцкага рэжыму, і таму апісаньне гэтага месца мае асаблівае інфармацыйнае і гістарыяграфічнае значэньне. Дэталі пра выяўленыя ў пахаваньнях рэчы былі ўведзеныя аўтарам у тэкст са спадзевам, што раптам хто-небудзь зможа нешта дадаць ці нешта апазнаць. Аўтар быў згодны скараціць гэтую канкрэтыку.

Але ў адрас М.Крывальцэвіча прагучалі абвінавачаньні ў палітызаванасьці ягонага тэксту. Фактычна гэтая "палітызаванасьць" выявілася ў тым, што да сухіх фармулёвак Заключэньня ўрадавай камісіі былі дабаўленыя ня менш ляканічныя фармулёўкі са справаздачы археолягаў, а таксама ў тым, што названыя віноўнікі рэпрэсіяў. Хто ж вінаваты, што частка сёньняшняга кіраўніцтва Беларускай Энцыкляпэдыі лічыць сябе спадкаемцамі той ідэалёгіі, якая прывяла ў Курапаты тысячы нявінных ахвяраў.

Сабраныя археолягамі пад час дасьледаваньня матэрыял сапраўды багацейшы за ўключаны ў афіцыйную справаздачу. Як большая і колькасьць сьведкаў, якія пагадзіліся распавесьці свае ўспаміны археолягам і тым людзям, якія на працягу 20-ці гадоў зьбіралі сьведчаньні жыхароў навакольных вёсак — Цна-Ёдкава й Драздова. Такіх сьведкаў было больш за 200 чалавек. Пракуратуры паказаньні пагадзіліся даць больш за 40 чалавек. Мікола Крывальцэвіч спасылаецца на поўную колькасьць сьведкаў. Гэта таксама выклікала пярэчаньні ў рэдактараў. Хоць рэцэнзэнты ня выказалі да артыкула ніякіх заўвагаў.

Фактычна патрабаваньні выдавецтва выходзілі на тое, каб зьвесьці артыкул да некалькіх фармулёвак з Заключэньня пракуратуры. Гэта значыла б мінімізацыю грамадзкага й інфармацыйна-гістарыяграфічнага гучаньня тэмы на старонках Энцыкляпэдыі. Таму выкажам меркаваньне пра рэальныя матывацыі цэнзураваньня энцыкляпэдычных артыкулаў, у тым ліку артыкула "Курапаты". Афіцыйныя лёзунгі цяперашняга рэжыму — рэсаветызацыя й славяна-расізм. Насамрэч рэсаветызацыя адбываецца толькі ў нейкіх зьнешніх формах, а сутнасьць працэсу — усталяваньне новага аўтарытарызму. Тым ня менш, ідэалягічныя лёзунгі патрабуюць захоўваньня "чысьціні" савецкага мінулага. А Курапаты — адзін з самым непрыемных сюжэтаў з гісторыі тагачаснага ладу. Таму фармулюецца мэта — праз абмежаваньне інфармацыі пра Курапаты вывесьці гэтую тэму з грамадзкага гучаньня.

Але ці рэальна? У некалькі скарочаным варыянце артыкул Міколы Крывальцэвіча ўжо быў надрукаваны ў энцыкляпэдычным даведніку "Беларусь" (Менск, 1995, с. 411-412). Але там скарачэньні былі іншага роду — з-за таго, што ў адзін том умяшчалася ўся інфармацыя пра Беларусь. Толькі што артыкул Міколы Крывальцэвіча "Курапаты" апублікаваны ў польскай Энцыкляпэдыі PWN. З чацьвертага тому Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі аўтар быў вымушаны забраць свой матэрыял.

Няўвага да прынцыпаў інфармацыйнага грамадзтва з боку рэгулятараў інфармацыйных працэсаў, а таксама таталітарныя ілюзіі часам прыводзяць да зусім адваротных вынікаў — тыя тэмы, якія імкнуліся прыглушыць, набываюць новае гучаньне.

**Алег Дзярновіч**

**КУРАПАТЫ** (інш. назва Брод), урочышча пад Менскам, за 200 м на Поўнач — Паўночны-Захад ад мікрараёну Зялёны Луг, на тэрыторыі Бараўлянскага сельсавету Менскага раёну, дзе ў 1937-1941 органы НКУС БССР праводзілі масавыя расстрэлы цывільных грамадзянаў. Як месца масавых расстрэлаў К. сталі шырока вядомыя грамадзкасьці ў 1988 пасьля публікацыі арт. "Курапаты — дарога сьмерці" З.Пазьняка і Я.Шмыгалёва (газ. "Літаратура і мастацтва" 3.06.1988). У чэрвені 1988 створана ўрадавая камісія і распачата крымінальнае сьледзтва, узбуджанае па факту знаходжаньня пахаваньняў у К. Сьледчая група пракуратуры БССР з мэтай устанаўленьня абставін зьяўленьня ў К. пахаваньняў правяла эксгумацыю 6 магілаў. У выніку навуковага дасьледаваньня па эксгумацыі, зьдзейсьненага групай археолягаў Ін-та гісторыі АН БССР (кіраўнік З.Пазьняк), афіцыйна пацьверджаны факт існаваньня ў К. пахаваньняў расстраляных з 2-й пал. 1930-х г. да пач. Вял. Айч. вайны цывільных грамадзян. Акрамя архіўных пошукаў, уліку паказаньняў больш за 200 сьведкаў расстрэлаў у К., была праведзена археалягічная і крыміналістычная экспэртыза матэрыялаў эксгумацыі. Яна ўключала пляніграфічныя, стратыграфічныя дасьледаваньні магіл, судова-мэд. вывучэньне рэштказ касьцей, у т.л. стаматаляг. і крыміналіст. экспэртызу зубных пратэзаў, каронак, плёмбаў, краніяскапічнае дасьледаваньне, дэндрахраналяг. вызначэньне сьпілаваных на магілах дрэваў, дасьледаваньне надпісаў і клеймаў на асабістых рэчах забітых, манэт, куляў, гільзаў і інш. На тэрыторыі К. выяўлена больш за 500 магільных западзін памерамі ад 1x2 м да 5x8 м, сьляды агароджы з ровам каля яе. Паводле вынікаў археал.-тапаграф. абсьледаваньня К., можна меркаваць, што вял. колькасьць магіл была зьнішчана раней у час пракладкі дарог, газатрасы, пасадак лесу і інш.

Расстрэлы ў К. пачаліся ў 2-й пал. 1930-х г. У 1937 на самым высокім пагорку ўрочышча ўзьведзена шчыльная драўляная агароджа выш. каля 3 м з калючым дротам наверсе і выкапаным побач ровам. З боку ўжо існаваўшай у той час дарогі на Заслаўе ў агароджы была зроблена вял. брама для ўезду машынаў. Днём і ноччу месца ахоўвалася супрацоўнікамі НКУС. Да 1937 расстрэлы ў Курапатах адбываліся рэдка, пазьней праводзіліся рэгулярна, амаль кожны дзень (позна вечарам, ноччу, зранку, радзей у сярэдзіне дня). Перад расстрэламі выкопваліся ямы глыбінёй каля 2 мэтраў. Зьняволеных звычайна прывозілі на спэцыяльна абсталяваных грузавых аўтамабілях маркі "ГАЗ-А" ("палутарка") зь цёмнымі будкамі бяз вокнаў. Крытыя "палутаркі" маглі суправаджацца легкавым аўтамабілем. Часьцей у К. прыяжджалі 1 ці некалькі грузавікоў з 15-20 зьняволенымі ў кожным, якія ахоўваліся супрацоўнікамі НКУС. Людзей са зьвязанымі рукамі выводзілі партыямі з машын, ставілі або садзілі на край ямы і стралялі ў патыліцу, скроню ці цемя зь пісталетаў сыстэмы "Наган" (у асобных выпадках, верагодна, зь пісталету "ТТ"). Забітых прысыпалі пяском, потым расстрэльвалі новую партыю, напаўняючы яму амаль даверху. Засыпаўшы трупы, магілу часьцей маскавалі травой, мохам, гольлем. Рабілася спроба пасадзіць зьверху дрэвы. Паводле краніяскапічных дасьледаваньняў, сярод расстраляных былі мужчыны і жанчыны пераважна сярэдняга веку (30-49 гадоў). Знойдзеныя асабістыя рэчы ахвяр сьведчаць, што ў К. загінулі прадстаўнікі розных сацыяльных пластоў (інтэлігенцыі, сялянства і інш.), сярод іх шмат выхадцаў з Заходняй Беларусі. На выяўленым у адным з пахаваньняў плястмасавым грабеньчыку прадрапаны надпіс на польск. мове "Цяжкія хвіліны вязьня. 25.04.1940. Думка пра вас даводзіць мяне да адчаю" (на адным баку), "26.IV.Расплакаўся — цяжкі дзень" (на адваротным баку). На адным заручальным пярсьцёнку выгравіраваны дата "2.1.1935" і літары "R", "O", "WM", на другім — "JB", на трэцім у прамакутных рамках — "NHRB", "W", "З". На адным мэдальёне на срэбным ланцужку выява Маці Боскай Чэнстахоўскай, на другім — Дзева Марыя ў поўны рост, радок малітвы на польск. мове, крыжык, манаграмы літары "M", зорачак па краях. Час правядзеньня расстрэлаў вызначаны на аснове апытаньня сьведак, судова-крыміналістычнай экспэртызы касьцяных рэшткаў, зубнога пратэзаваньня, надпісаў, маркіроўкі абутку, посуду, грабеньчыкаў і інш., дат на гільзах, манэтах. У прынятым урадавай камісіяй заключным дакумэнце колькасьць пахаваных у К. складае ня менш за 30 тыс. чал. З улікам стратыграфіі і пляніграфіі магіл аўтары археал. справаздачы паводле вынікаў эксгумацыі дапускаюць, што лік ахвяр можа дасягаць 100 і магчыма больш тыс. чал. Археолягі адзначылі, што праведзенай у 1988 эксгумацыі папярэднічала значна больш ранейшае раскопваньне магілаў, верагодна, з мэтай перанясеньня парэшткаў расстраляных у інш. месца або іх зьнішчэньня. Некаторыя навукоўцы, паліт. дзеячы, журналісты, пераважна прыхільнікі камуністычнай ідэалёгіі, нязгодныя з заключэньнем урадавай камісіі і вывадамі археалягічных дасьледаваньняў у К. Ва ўшанаваньне памяці ахвяраў пастаўлены крыжы, камень, шчыты з надпісамі, мэмар. пліта. К. сталі месцам памінаньня ахвяраў бальшавіцкага тэрору ў Беларусі.

*Літ.: Тарнавский Г., Соболев В., Горелик Е. Куропаты: следствие продолжается. М., 1990; Пазьняк З. Сапраўднае аблічча. Мн., 1992; Курапаты. Нью-Ёрк, 1993; Курапаты: Артыкулы, навук. справаздача, фотаздымкі. Мн., 1994.*

**Мікола Крывальцэвіч**

Шаноўны спадар В.Нагнібяда! Просім затэлефанаваць у рэдакцыю ды зьвязацца з Алегам Дзярновічам. Вядзецца пра зроблены Вамі запіс успамінаў.

КІНО

# Ці прычакаем новае хвалі?

*Некалькі словаў пра кінарынак, нацыянальны кінематограф і Андрэ Мальро, якога, на жаль, у Беларусі не было*

Палітычная ды эканамічная нестабільнасьць у краіне адыграла не апошнюю ролю ў правале першага Міжнароднага кінарынку дакумэнтальных, навучальных, навукова-папулярных ды дзіцячых кіна-відэафільмаў і тэлепраграмаў, што нядаўна адбыўся ў Менску. Адмовіліся прыехаць у Беларусь кінавытворцы й дыстрыб'ютары з ЗША, Францыі, Польшчы, Баўгарыі... І ў гэтым няма нічога дзіўнага: пра якія камэрцыйныя справы можна весьці гаворку ў дзяржаве, дзе дагэтуль не прыняты закон аб кіно й ня дзейнічае аўтарскае права? Паводле меркаваньня гасьцей, якія ўсё ж рызыкнулі ўзяць удзел у рынку, менавіта працьвітаньне піратства ў беларускім кіна- ды тэлепракаце тлумачыць адсутнасьць цікавасьці беларускіх пракатчыкаў да кінарынку.

У апошнія гады паўсюдна ўзрасла глядацкая цікаўнасьць да навукова-пазнавальнага жанру, кабэльныя ды эфірныя каналы з задавальненьнем купляюць сэрыялы пра падводны сьвет альбо, напрыклад, пра малавядомыя першабытныя плямёны. Але ж такіх фільмаў у Менску не паказвалі. Аднак, некаторыя стужкі, прадстаўленыя ў Чарнобыльскай праграме, на погляд эўрапейцаў — таксама экзатычныя. Дзесяць гадоў таму здавалася, што Чарнобыльская катастрофа ня толькі страсяне сьвет, але й прымусіць яго засвоіць нейкі ўрок, тады здавалася, што пасьля гэтай аварыі мусіць скончыцца сярэднявечча чалавецтва. Мінула адзінаццаць гадоў і сёньня, праглядаючы дакумэнтальныя фільмы, разумееш, што за гэтыя гады нічога не зьмянілася. Гэтак жа бясьсільныя ў сваёй беспрынцыповасьці ўлады, як і невінаватыя ды нешчасьлівыя людзі, што жывуць на атручаных землях. Але ж, паколькі большасьць з гэтых фільмаў не былі паказаныя шырокай публіцы, ня сталіся "учорашнімі" (гэты тэрмін у свой час ужыў Рэнэ Клэр), застаецца спадзявацца, што гледачы іх убачаць "заўтра".

На жаль, каталёг рынку складзены на подзіў непрафэсійна (не пазначаныя ня толькі прозьвішчы апэратараў, жыцьцярысы рэжысэраў ды ўзнагароды, атрыманыя на фэстывалях, часьцяком адсутнічае і год вытворчасьці карціны). Таму складана меркаваць нават пра фэстывальны лёс фільмаў. Звычайна ўзнагароды адыгрываюць ці не галоўную ролю ў камэрцыйным посьпеху ня толькі пастановачных фільмаў. Да прыкладу, з трыюмфам прыняты крытыкамі й публікаю на Бэрлінскім фэстывалі фільм Юрыя Хашчавацкага "Аазыс" (апэратар Сямён Фрыдлянд), які атрымаў летась на гэтым фэстывалі прыз на кінапраглядзе ў рамках фэстывалю, але аб ягоным набыцьці не было й гаворкі ў тыя дні. Не было пакупнікоў... У выніку, за тры дні кінарынку ў Менску былі прададзеныя толькі некалькі фільмаў, ды й тыя ніякіх адносінаў да кінадакумэнталістыкі ня мелі.

Праводзіць кінарынак у краіне, дзе няма нацыянальнага кінафэстывалю, гэтак жа ня мае сэнсу, як і прысвойваць кінастудыі "Беларусьфільм" статус "нацыянальнай." Усё, што рабілася ў апошнія гады на базе гэтай кінастудыі, ніякага дачыненьня да нацыянальнага кінематографу й кінабізнэсу ня мае. (Зрэшты, як і фэстываль расейскага кіно, ініцыяваны Маркам Рудзінштэйнам, альбо фэстываль г-на Бурляева "Золотой Витязь" — колькі б яго не патранаваў кіраўнік дзяржавы.)

А тыя лічаныя фільмы, што былі зробленыя паводле адраджэнскай праграмы на студыі "Летапіс", ляжаць "на паліцы" і ў блізкім часе, можна меркаваць, ня выйдуць на экран.

Дзеля параўнаньня варта нагадаць, што сур'ёзны крызыс — эканамічны, у прыватнасьці, — перажыла ў свой час француская кінаіндустрыя. Але французам пашанцавала — у іх быў Андрэ Мальро, які адрадзіў пасьля вайны францускі кінематограф. Зрабіўшыся міністрам культуры, пісьменьнік не зрабіў нічога надзвычайнага — усяго толькі дамогся абкладаньня драконаўскімі падаткамі пракатчыкаў амэрыканскіх фільмаў, а здабытыя грошы былі накіраваныя ў падтрымку маладых рэжысэраў. Сярод іх быў Жан-Люк Гадар, тады ж зьявілася і славутая "Новая хваля".

Пра магчымасьць зьяўленьня "новай хвалі" ў нас гаварыць не даводзіцца. Хоць вельмі хацелася б убачыць у каталёгу менскага кінарынку новыя імёны.

**Алена Лукашэвіч**

ФЭСТЫВАЛЬ

# Рэзыдэнцкія музы

Напачатку траўня ў Нясьвіжы адбыўся "Другі фэстываль камэрнай музыкі", наладжаны Міхалам Фінбергам. Да фэстывалю была прымеркаваная навуковая канфэрэнцыя "Музы Нясьвіжа", а таксама выстава некалькіх менскіх мастакоў.



Нясьвіж сустрэў удзельнікаў кавалкамі чырвона-зялёнай тканіны па-над усімі магчымымі ўстановамі і сьвежымі партрэцікамі перадавікоў працы ў такім жа каляровым убраньні. Другім уражаньнем ад узорнага запаведніка савецкай рэанімацыі была нават для савецкіх часоў надзвычайная занядбанасьць касьцёла, замка ды і ўсяго астатняга. Здавалася, грошай хапіла толькі на чырвона-зелень ды яшчэ на фэстывальную помпу.

Канцэрт у санаторна-замкавай залі... Рэквіем побач са споднімі хворых пры шыкоўнай акустыцы старасьвецкай забудовы ствараў незвычайнае ўражаньне. Месца ў залі не хапала, і я затрымаўся на парадвай некалі лесьвіцы, пад зрокамі крываногіх цыцястых Паладаў і крываротага, таксама вялікага некалі інтэгратара нашага краю, непераможнага Суворава. Нарэшце, ня вытрымаў і выйшаў на паветра, праз браму на вал. Пад мурам грувасьціліся буйныя кучкі экскрэмэнтаў, з вокнаў даносіліся гукі імшы Шымкевіча.

Увечары адбылося ўрачыстае адкрыцьцё. Адчуваньне тое ж — то цягне на ваніты ад чырвоных пысаў, ад прамоваў, то цудоўная музыка дапамагае забыцца на ўсё... "Істэблішмэнт" не ратавала нават дэкляраваная ім і, пэўна, не выпадкова, "беларускасьць" — па-беларуску й мясцовы "мэр", і міністар культуры, і яшчэ нехта й нехта... Беларушчына, як і музыка, упарта не спароўваецца з "рэжымнасьцю". А жаданьне адчувалася. Культура павінна служыць — і ўся груваcткая трохдзённая імпрэза прызначаная была даказаць, што служыць — будзе. І сапраўды — з крывою ўсьмешкаю, адплёўваючыся, сьціскаючы зубы, але... прыслужвае, ня ўся, вядома, але ж... І то, праўду кажучы, бывае за што — кармілі ўлады ў Нясьвіжы няблага, і ня надта адкормленай інтэлігэнцыі ад сытасьці да шчырага захапленьня, здавалася, застаецца ўжо невялікі крок. Дзьвесьце мільёнаў зь мясцовага бюджэту, натрэсенага з калгасаў і саўгасаў, пайшло на адміністрацыйны кайф — на добрую справу, вядома, не шкада, а на добраўпарадкаваньне ці рэстаўрацыю — не хвалюйцеся — дадуць. Сапраўды, напэўна, дадуць, бо над Нясьвіжам цяпер лунае магічнае слова: РЭЗЫДЭНЦЫЯ...

Мясцовы галава прызнаўся на прэсканфэрэнцыі: САМ быў нядаўна, аглядаў кожны куток замку, шчыра захапіўся й запытаў: "Колькі часу патрэбна на тое, каб усё тут падняць?" Адказалі —"дзесяць гадоў". "Зрабіць за чатыры-пяць!" Загадаў — і адбыў задаволены. Адміністрацыйнаму кайфу няма межаў. Да яго далучаецца той-сёй з навуковых мужоў — грошы будуць, хто ж сёньня яшчэ дапаможа, рапарацыя будзе, тым больш, чым жа нам яшчэ рэпрэзэнтаваць нашу цяперашнюю дзяржаўнасьць, як не прыватным маёнткам мясцовых магнатаў.

Сама канфэрэнцыя займала толькі дзень. Удзельнікі — усе зь Менску, у большасьці — людзі вядомыя, правераныя, ніякай непрадказальнай моладзі, ніякіх выбрыкаў. Паважаныя спадары Мальдзіс, Конан, Габрусь, Ярашэвіч сапраўды выклікалі ўвагу й павагу, але мяне чамусьці захапіў толькі даклад Віктара Скарабагатава — вядомага сьпевака й гісторыка музыкі. Яго сьмелыя паралелі, напрыклад, "Агатка" — "Фігаро", уражвалі ня толькі сваёй незвычайнасьцю, але й абгрунтаванасьцю, проста й даказальна паказваючы, што "беларускасьць" нашай культуры гэта й ёсьць яе "эўрапейскасьць", што, сапраўды, шлях яе быў не на маргінэсе, а дастаткова часта — у авангардзе эўрапейскіх накірункаў. Тое, што было для мяне зразумела з тэатральнай, літаратурнай гісторыі, пацьвярджаецца гісторыяй музыкі.

Мясцовая інтэлектуальная эліта у колькасьці чалавек дваццаці — супрацоўнікі музэя, выкладчыкі — сядзела й слухала, на жаль, моўчкі, і заплянаваная ў раскладзе завяршальная дыскусія гэтак і не "распалілася". Удзельнікі канфэрэнцыі таксама ня рваліся ў спрэчкі — іх чакала сытная вячэра са шчырым кілішкам "на пасашок".

Уся імпрэза разам нагадала мне калясальную "галачку", пастаўленую ў нейкіх адміністрацыйных справаздачах —" праведзена адпаведнае мерапрыемства". Улада засталася ўладаю, культура — культураю. Каханьне паміж імі пакуль неяк ня складваецца, хоць альянс — ці, можа, мэзальянс — накрэсьліваецца.

"Ікарус" імчаў мяне ў вечаровую прастору, праз нясьвіскія вулкі, праз Сьвержань, Стоўбцы; ззаду яшчэ не ўтаймавалася гулянка, а ў галаве маёй усё круцілася адно пытаньне: "Пасьпее ці не пасьпее. Пасьпее ці не пасьпее..."

**Вацлаў Арэшка**

КАЛЯНДАР

# Божа, ратуй нас ад іх...



26 красавіка — сумная дата ў аналах яшчэ аднаго эўрапейскага народа. У гэты дзень у 1937-м нямецкая авіяцыя зрабіла начны налёт на горнае каталёнскае мястэчка Герніка. Загінула больш за паўтары тысячы чалавек, разбурэньні былі амаль стопрацэнтовыя. Пабла Пікаса, уражаны трагедыяй, адрэагаваў на яе вялікім палатном, якому наканавана было стаць ня толькі сэнсацыяй міжнароднай выставы 1937 г. у Парыжы, але й клясычным творам жывапісу XX ст. Нагадаем, што сэнсацыяй павільёну СССР на памянёнай выставе была надчалавечых, цыкляпічных памераў кампазыцыя В.Мухінай "Рабочы і калгасьніца", дагэтуль адзін з найбольш таленавітых і дзікіх сымбаляў "новага чалавека". Грамадзянская вайна ў Гішпаніі была адным зь першых штуршкоў катаклізму, які пазьней атрымаў назву II сусьветнай вайны. Калі прыгадаць, што ўдзельнікі Стогадовай і Трыццацігадовай войнаў ня ведалі, на колькі часу зацягнуцца і ў якую суму складуцца тагачасныя ваенныя канфлікты, то стане ясна, наколькі ўмоўныя гэтыя пазьнейшыя манумэнтальныя назвы і характарыстыкі. Таксама як і даты 1 верасьня, 22 чэрвеня, 3 ліпеня, 8 або 9 траўня найноўшай гісторыі.

Немцы не забыліся на Герніку. На ўрачыстасьці з нагоды 60-х угодкаў бамбардаваньня ў Каталёнію прыехала прадстаўнічая дэлегацыя. Фэдэральны прэзыдэнт Нямеччыны Раман Герцаг публічна прасіў прабачэньня за злачынствы нямецкіх вайскоўцаў. Аднак ня толькі гэта. Нямеччына дэ факта зьяўляецца гарантам дэмакратычнага парадку ў пірэнэйскім каралеўстве — найлепшая кампэнсацыя за былыя ўчынкі. Колькі гадоў таму нешта падобнае адбылося ў Гэльсынках, дзе Ельцын усклаў вянкі на магілу фінскай моладзі, што ў 1940-м ахвяравала сабою ў зімовай вайне супраць крамлёўскага Галіяфа. Афіцыёз тады ажно прасьлязіўся ад расчуленасьці: "які гуманізм, якая чалавечнасьць новае Расеі!" (Нібыта маскоўцы вярнулі гаспадару акупаваныя Віipуры і Пэтсама — Выбарг і Печэнгу). А нам тое шоў нагадала гераічны візыт Гарбачова ў чарнобыльскія раёны Беларусі ажно на пяты год пасьля катастрофы, ягоныя блазенскія звароты да няшчасных разявак: "ну что, товарищи, как вы думаете, здесь можно жить?.." Дэкаратыўныя каяньні перад вугорцамі, чэхамі і славакамі вытрымліваліся ў Крамлі, як нейкая бражка, па 25-40 гадоў і прагучалі, як сказаў бы Тацыт, in vox porcae (у сьвінячыя галасы). Так што ў аўганцаў, чачэнцаў, інгушоў ды і ў нас вялікая пэрспэктыва...

"Вось велізарная магіла 11 мэтраў удаўжыню. Завал касьцей. Шкілеты ў тры штабэлі. Мушкетныя прастрэлы ў чарапах, праломы". Думаю, ня кожны адразу пазнаў фрагмэнт з артыкула Зянона Пазьняка, дзе згадваюцца ахвяры расейскага тэрору часоў "невядомай вайны" XVII ст. Не выпадкова жахлівыя рысы даўняга злачынства паслужылі зусім натуральным прататыпам да далейшага расповеду пра раскопкі ў Курапатах. Цытату можна таўраваць любой датай, і яна застанецца крыніцай праўдзівай інфармацыі. У шэрагу, вартым паўтарэньня Нюрнбэргу, сярод іншага —"славные дела Петровы", бліскучае адступленьне праз нашую тэрыторыю ў 1812 г., ня менш бліскучае баранавіцкае наступленьне 1916 г. ды ці мала чаго яшчэ. Нягледзячы на ўсю ўмоўнасьць даты і на немагчымасьць схавацца ад пустабрэху афіцыйнай хлусьні, у гэтыя дні кожны міжвольна вяртаецца думкамі ў мікракосм лёсу сваіх продкаў на фоне макракосму сусьветных падзеяў.

Тыповыя эпізоды "вызваленьня"... Вызвольнікі мабілізуюць гомельскіх мужчын і праз колькі дзён кідаюць іх, ненавучаных, ледзь узброеных, у лабавую атаку — страты да 95%. Хто быў большым забойцам: Ганс за кулямётам або дзядзя за крамлёўскім мурам? Ацалелых пагналі далей, пакуль на Беласточчыне немцы ня сьціснулі іх у танкавыя абцугі. "Цёплай ліпеньскай ноччу, — піша ў мэмуарах генэрал Батаў, — я выйшаў са штабной зямлянкі дыхнуць сьвежага паветра. Раптам бачу перад сабой, як нямецкі танк паварочвае вежу і цаляе ў нас. Мы ўскочылі ў эмку і ледзь пасьпелі ўцячы". "Bravo, general!" — крычалі ў такіх выпадках італьянскія жаўнеры. Апанас Буйвал ды іншыя шарагоўцы права ўцякаць ня мелі і трапілі ў мясарэзку. Дзякуй гайнаўскім беларусам, што шануюць іхныя магілы. А ў саветаў на адно імя палеглага сто зь лішнім "невядомы... невядомы..." Нібыта не засталося архіваў і зьвестак. Ды што там, паводле сьціплых меркаваньняў палова параскіданых па ўсёй Эўразіі трупаў жаўнераў дагэтуль не пахаваная. У амэрыканскай арміі такі генэрал пайшоў бы пад суд, а тут Батаў зрабіўся старшынём вэтэранскай арганізацыі і мэмуарыстам. Ягоная армія дайшла да канцлягеру Штутгоф, што на польскім Выбжэжу. "Красные соколы" налятаі і ладзілі вязьням Герніку штоноч. Бацька распавядаў мне, як аскепкам забіла ягонага сябра на верхніх нарах і нацякло поўны кацялок крыві. Як пасьля "вызваленьня" грузінскія канваіры пагналі іх у ГУЛАГ, абганяючы калёны вызваленых палякаў, французаў, бэльгійцаў, што зь песьнямі і пад нацыянальнымі сьцягамі вярталіся на радзіму.

Шумным скандалам адгукнуўся інцыдэнт з амэрыканскім генэралам Патанам, які пад час наведваньня шпіталя ўдарыў кантужанага жаўнера, прыняўшы яго за баязьліўца. Рашэньне аб адстаўцы адмянілі пасьля таго, як генэрал папрасіў прабачэньня ў шарагаўца. У сваёй кнізе "Крыжовыя выправы ў Эўропу" Эйзэнхаўэр прыгадвае сустрэчу з маршалам Жуковым. Як той выхваляўся сваёй тактыкай наступу дывізіямі па мінных палях —"страты ня большыя, чым ад кулямётнага агню". Камэнтар аўтара кароткі — "такога загаду мае падначаленыя не зразумелі б". Азіяцкая пагарда да чалавечага жыцьця, цынізм на ўзроўні біялягічнага коду — такія знаёмыя й нашаму пакаленьню прыкметы ўсходніх начальнікаў. Мы не спадзяемся на іхныя каяньні, не патрабуем іх. Яны заўсёды прыходзілі на нашую зямлю, каб забіваць. Хочацца, каб у храмах усіх канфэсіяў у гэтыя дні гучала малітва "Божа, ратуй нас ад іх..."

**Валеры Буйвал**

# ЭПІКОН



### Зьмітро Сідаровіч

## ТАЛАКА

*(Настальгія па першай хвалі нефармальнага руху)*

"Будзем штукавацца?" — спытаў Стась. "Добра, будзэм штукавацца!" — сказаў я. І пачалі мы штукавацца. Тады прыйшоў Ю.Гузік і таксама пачаў штукавацца. Потым прыйшлі Ганна Сямёнаўна, Самуіл Гермагентавіч, Васіль Мікалаевіч, Іван Міканоравіч і Саўлась Пірчанка. "Што гэта вы тут -- штукуецеся? Не маглі куды ўбок адысьці, пашукаць, ці што?" -- сувора спыталі яны. Мы спыніліся і апусьцілі галовы. "Нядобра, — сказалі яны. — Несумленна". "Проста сорамна," — ціха прамовіла Ганна Сямёнаўна.

Нам зрабілася сорамна. Мы яшчэ ніжэй апусьцілі галовы, а Ю.Гузік нават усхліпнуў. І гэта стала апошняй кропляй.

"А казлы вы ўсе!!!" — жудасна закрычаў Стась. Ён сьціскаў кулакі й выкатваў вочы. "А што вы пра нас, нефармалаў, ведаеце? Для вас усе нефармалы — бруд, гразь, цяжкія падлеткі, а вы на сябе, на сябе зірнеце, чым вы лепшыя?!!"

Яны зьлякаліся. Яны не чакалі такога. А тут яшчэ з правага краю падтрымаў Ю.Гузік: "Правільна-а! Давай штукавацца, бляа!!!"

І ўсе пачалі штукавацца. У самым куточку з сур'ёзным, засяроджаным выглядам штукавалася Ганна Сямёнаўна. Пот цяжкімі кроплямі блішчэў на ейным ілбе, а яна ўсьміхалася скрозь стому адкрытай усьмешкай простага рабочага чалавека.

Празь нейкія паўгадзіны мы абштукавалі ўсе куты, усю падлогу і нават дзьве сьцяны гэтага пакойчыка.

"Гаплык! Заўтра даштукуем!" — сказаў Стась. І мы, шчасьлівыя і стомленыя, разышліся па дамах.

### В. Р.

## QUO VADIS?

Мора... Уздыхаю паветра праз нос — пахне морам. Ты любіш, тутэйшы жыхар, мора? Удыхні паветра і ўяві яго пах, гул. Ты ня быў на моры? Ну нічога, усё адно ўяві, наколькі табе дае фантазія, адчуй. Не атрымліваецца? Тады прайдзі па 4-м мікраараёне і іншых месцах, дзе ёсьць ланцугі вакол пад'ездаў, дамоў, будынкаў, — павер, так лягчэй. Ланцуп, бэтонныя слупкі, мэталёвыя слупкі... кнехты, трасы, лябёдкі, якары... Калі ёсьць ланцугі, то абавязкова павінны быць якары, а так лягчэй адчуць мора...

Любіш ты, тутэйшы жыхар, мора, любіш. І няхай яго ўжо няма ў гэтым раптам паменшаным рукою нябачнага чараўніка, краі, а табе хочацца. Хочацца не таму, што ты спрадвеку марыш пра тую вялікую краіну, якую зноў — каторы ўжо раз? — страціў, а так — хочацца. І пляваць табе на нейкую там архітэктурную эстэтыку, гармонію, прыгажосьць, — і я цябе разумею. Галоўнае мора, і нават ня ўласна мора, а мора-рух. Ты закопваеш побач з ланцугамі на месцы зламаных дзецьмі бэтонных слупкоў чыгуначныя рэйкі — ты марыш ужо аб чыгуначнай цэшцы. Правільна — "рух": не разьбіць, не спыніць, не стрымаць. Ён — твая "канстанта". Капіталізм, сацыялізм, камунізм, капіталізм, рыначны сацыялізм — усё наступнае патанае ў папярэднім. Ты хочаш узяць усё і адразу — сёньня, зараз, цяпер: Сьветлагорск — гэта горад энэргетыкаў, хімікаў, будаўнікоў, моладзі, "маракоў", "чыгуначнікаў"... І ты дадаеш: прастытутак, мафіі, наркаманаў, AIDSy. Ты хочаш усяго, усё ахапіць, усё паспрабаваць, высмакаваць. Ты — дзіцятка, гэта яно хоча ўсё сабраць: фантыкі з усіх гумак, цукерак, усе цацкі з кіндэр-сюрпрызаў. Але дарослы дзядзечка прыдумвае ўсё новыя і новыя малюнкі, цацачкі, хаваючы іх у гумкі і кіндэр-сюрпрызы. Ты ляціш кудысьці ў пагоні, быццам хочаш дагнаць гэтага дзядзечку, каб проста зазірнуць яму ў вочы. А дзядзечка зьнікае ў тваім скразным, шкляным позірку. Ты ўжо ня бачыш навокал, але нічога — галоўнае рух. І няхай у гэтым руху ты губляесься, як губляецца, не кацірууецца мак-зерне у макавай галоўцы для наркамана. Ты рухаесься, імчыш — а гэта для цябе галоўнае.

Ты імкнесься ўсё ахапіць, як ніхто іншы ў тваім тутэйшым краі. Той, хто вырас на вялікім абшары, задыхаецца на маленькай пpасторы. Твая тутэйшасьць ствapалася зь вялікага пpастopавага патэнцыялу (будаваць горад прыехалі з усіх куткоў СССР), вялікага патэнцыялу разумовага, а тутэйшае месца абмежавана розумам: энэргетыкі, хімікі ды будаўнікі. Твая цяперашняя і былая вялікая тутэйшасьць не прызвычаілася да дзяржаўнага і эканамічнага ладу, і гэта прымусіла цябе шукаць іншай рэалізацыі сваіх разумовых здольнасьцяў. Для прыгатаваньня кайфу твая агромністая рэшта нерэалізаванага розуму акурат прыйшлася дамесца. Руш, мар, кайфуй, і няхай гэты кайф бароніць цябе ад AIDSy.

### Алесь Пpускі

## СОН ПЯТЫ

*З "Выбраных сноў"*

Я быццам бы ў коле (вельмі абраным) паэтаў. Паэты просяць аднаго з субратоў прачытаць вершы. Наступае мёртвая цішыня, паэт доўга зьбіраецца з пачуцьцямі і пачынае:

— Вурвалум... (У сьне часта і словы, і гукі незразумелыя.)

... паэт нэрвова перапыняецца і зь нянавісьцю глядзіць у мой бок. Тут я чую ўяўнае сапеньне і разумею, што яно ідзе ад мяне, бо падсьвядомасьць гаворыць мне — гэта сон, ты сьпіш і ўсё, што адбываецца, толькі сьніш...

Але я вінавата ўстаю, і, просячы прабачэньня, пакідаю абранае кола паэтаў. У тую хвіліну я прачынаюся...

### Руслан Равяка

## КРОЎ

Кроў залівала краіну. Невядома якім чынам і чаму — ва ўсіх крыніцах, рэках і азёрах зьявілася гэтая брусьніцовая вадкасьць, і з кожным днём яе колькасьць павялічвалася, зьнішчаючы вядомыя ўсім малекулы $H_2O$.

Навукоўцы, пажарнікі, міліцыянты, геолягі і мэдыкі пачалі досьледы, пошукі, фільтрацыю крыві, якая, як падалі аналізы, была чалавечай.

Яшчэ праз тыдзень пайшоў дождж. Чырвоны дождж. У той самы дзень з кранаў у кватэрах палілася кроў. (У студнях яна была даўно.)

Тамака, дзе зьяўляліся вялікія запасы гэткай вадкасьці, яна згушчалася па краях і пасьля згусала, утвараючы чарнавата-барвовую корку.

У краіне пачалася смага. Ваду прывозілі з суседняй дзяржавы і выдавалі па хуткааддрукаваных картках.

Прыкладна празь месяц народ прызвычаіўся, што ў прыбіральні пасьля патрэбы ліецца кроў, што замест соку з дрэваў цячэ брусьніцовая вадкасьць, што з гарадзкіх вадакідаў б'е чырвоны струмень, што сярод грамады выявіліся крывасмокі.

Народ прызвычаіўся да шмат чаго.

Вядомыя палітыкі пачалі выказваць думкі пра зьмену назвы краіны — дзеля адпаведнасьці колеру і рэчаіснасьці. Бо за мяжою нідзе такога дзіва не было.

Тады і скончылася тая напасьць, бо сканалі ўсе тыя, хто некалі насыціў гэтую зямлю крывёю...

### А. Н.

## КАНФРАНТАЦЫЯ

Зьміцер рос хваравітым хлопчыкам, вельмі цікаўным да граматы, і ў школу пайшоў з шасьці гадоў. Выдатнікаў звычайна не паважаюць, але ён мусіць меў нейкі аўтарытэт у клясе, бо яго, самага меншага, выбралі старастам.

Кляснай была Людміла Іванаўна, зацятая высокая жанчына сярэдняга веку. Яна ж таксама вяла ў Зьміцеравай клясе расейскую мову ды літаратуру. Зьміцерава ж маці выкладала беларускую мову й літаратуру, так што, здавалася, ніякіх прычынаў дзеля канфрантацыі не магло быць.

Аднак, мусіць, былі...

Неяк Зьміцер адсутнічаў з-за хваробы дні тры ці чатыры. У той дзень, калі ён зноў пайшоў у школу, адным зь першых урокаў была расейская мова ці літаратура. Настаўніца знарок неяк нагнала жарсьці — як канкрэтна, ніхто б ужо мабыць ня ўспомніў. Села насупленая на сваё крэсла ды, гледзячы сабе пад нос, прамовіла:

— Стараста, устань!

Зьміцер, які сядзеў за першай ці за другой партай у шэрагу ад вакна, устаў. І тут кляса выбухнула рогатам. Прычыну гэтага Зьміцер зразумеў, калі азірнуўся назад. З-за перадапошняй парты таго самага шэрагу ўзьняўся яшчэ адзін стараста —спакойны разважлівы троечнік Жэнька Жмых. Аказалася, што Людміла Іванаўна прызначыла яго старастам, пакуль Зьміцер адсутнічаў. Маўляў, што ж вы, дзеці, выбралі гэтага хваравітага Зьміцера, абярыце здаравейшага старасту. І падахвоціла сваіх вучняў нічога Зьміцеру не сказаць, каб уволю пацешыцца...

Зьміцер ужо й ня памятае, хто застаўся старастам надалей. Зрабіў жа ён вось што. Была тады ў школе такая завядзёнка: на пачатку ўрока, калі настаўнік уваходзіў у клясу, вучні павінны былі ўстаць і стаяць аж да таго часу, пакуль настаўнік не прапануе ім сесьці. Дык Зьміцер перастаў уставаць, калі заходзіла Людміла Іванаўна. Што б яна ні рабіла. А яна ўжо й дырэктара прыводзіла, каб паглядзеў ды разабраўся. Ня дзейнічала нічога.

Неўзабаве Людміла Іванаўна адмовілася ад кляснага кіраўніцтва ў Зьміцеравай клясе. А потым і памянялася зь іншай настаўніцай, каб ня весьці ў іх расейскую мову ды літаратуру. Зьміцер жа назаўсёды зарокся займаць хоць якія выбарныя пасады.

### Сяргей Конан

## СУТОНЬНЕ

Сьляпое ўчора трымае ордэр на нашу еднасьць. Сьляпое сонца спрабавала знайсьці адтуліну ў хмарах, але ўсё гэта было марна. Празь сьвінцовую навалу немагчыма было прарвацца ні на імгненьне. Так усемагутная зорка атрымала паразу ад простых кропель вады, што ўзьняліся ўверх, гнаныя яе цяплом. Але яна не сумуе, яна возьме сваё.

Учора была навальніца. Сёньня трэба чакаць новага дажджу, маланак, грымотаў. Мая душа прагне ачышчэньня ад бруду, ад болю, ад непаразумеласьці, ад пятлі, што зацягваецца на маёй шыі. Але збаўленьня ня будзе, яшчэ ня час. Самае цяжкае наперадзе. Яно ціха і няўмольна паўзе вужакаю да ног, крочыць па лесьвіцы з наручнікамі ў кішэні, падае воблакам тугі на маю галаву. Яно трымае...

Трымае цёмная рука ў кішэні паперу, на якой маленькімі літарамі напісана, каго можна пасадзіць у аўтамабіль і адвезьці туды, дзе хаваецца мінулае і будучае. Туды, дзе няма слова "лёс", дзе перастае быць жыцьцё і пачынаецца існаваньне.

Гэтая папера — пропуск у той сьвет.

Ордэр высьлізнуў разам з рукою з кішэні. Трэба ісьці. Доўгі час цяпер ня будзе шматлікіх клопатаў, што заміналі мне тут. Я здабуду цішу чатырох сьценаў, але не спакой.

Прачытаўшы літары на белай паперы, я апрануўся, падставіў рукі і адчуў холад мэталу, затым сеў у аўтамабіль і паехаў у сьвет, дзе няма лёсу.

На чорнай столі я разгледзеў сваё мінулае жыцьцё, якое пранеслася з хуткасьцю мэтэарыта, згараючы перад маімі вачыма. Вось мітынгі, сьцягі, плякаты, шэрагі міліцыі, дубінкі, шчыты. Вось нехта ўпаў, нехта пабег, усё навокал утаптана ў бруд вясновых вуліц: людзі, сьцягі, надзеі. Гэта было крывавае вясельле д'ябла, крывавая нядзеля вясны.

Ь — наш вялікі нямы, нябачны і нячутны. Ён сочыць за кожным нашым уздыхам.

Нашу мару растапталі, але не забілі. Мяне ўзялі, пасадзілі, але не скарылі. Я сыйду ва ўнутраную эміграцыю і ва ўсёй душы будзе мая Беларусь.

Яна будзе ўнутры мяне, а як памру, нада мною.

Еднасьць жа не разбурыць. Еднасьць духу, мары. Радзіму нельга забіць. Усё, што зьмяшалася, закруцілася віхорам вакол мяне і ўнутры, ня пройдзе бясьсьледна. Я ёсьць і я буду. Тут альбо там.

Але назаўжды.

### Генадзь Драгун

## ВАДКАЕ КАХАНЬНЕ

Нехта зробіць нам цудоўны падарунак — выльле на ўсіх нас поўны цэбар сьвежага неба. Увесь сьвет пакрые зорная чорная з блісьцінкамі вадкасьць. Я ведаю, куды патрапіць адна кропелька. Ну, вядома ж — на цябе.

Я прачнуся і пабачу лагодны парасон аднаўленага неба. Прыйдзе мая раніца.

Учора ты прайшла зусім блізка ад мяне й пакінула свае сьляды. Я схіліўся й падняў іх. У мяне ўжо ёсьць адбіткі тваіх пальцаў, старая фатакартка, згублены табою волас, я здабыў тваё адлюстраваньне, перавярнуўшы люстэрка да сьцяны. Хутка па частках я зьбяру цябе ўсю.

Схаваюся за кут, пастукаю ў вакенца. "Хто там?", — спытае міла разбуджаны голас. "Новы дзень прыйшоў", — адкажу я, няўмела паспрабаваўшы пераўтварыцца ў чацьвер.

Потым я ўвайду ў яе вакно разам з сонечным промнем. Мы зь ім — як браты — абодвум так хочацца пабачыць яе.

Мы пральемся на яе нечакана, быццам цёплая кроў на халодны сьнег.

Я падыйду да яе з усіх чатырох бакоў, яна згубіцца ўва мне, быццам у тумане, мае думкі будуць занятыя тым жа, чым і мае рукі — ёю.

Мы зоймем увесь пакой, тут ужо ня будзе месца дзеля паветра.

Мы дажджом сальемся са столі, лужынаю расьцячэмся па падлозе, з расчыненай форткі падзьме ветрык, мы зойдземся першымі хвалямі.

Так ты станеш маёю галюцынацыяй. Сплю і бачу цябе. Прачынаюся — ты зноў тут.

### Зьміцер Сасноўскі

## СТОЛ

Маляўнічая прылада — дзьвюхтумбавы пісьмовы стол, калі тыдзень зь яго не расьпіхвалі па паліцах рэчы. У бязладзьдзі рэшткі — адбіткі мінулых дзён. Но-шпа і шклянка вады ўначы ратавала ад страўнікавага болю. Разрэзаная пластыкавая бутэлька з вадой ля магнітафона — ты зьнесла кветкі ня ўвечары, а толькі праз суткі. На ўскрайку падручнік філязофіі, карынка — падручнік з музэя Я.Драздовіча. Нечапаныя даўно нарыхтоўкі жалеек і тросьці для дуды, а дарэмна — хутка гуканьне вясны. Сілкаваньне бракаванае і плэер трэці дзень валяецца поруч з буднікам. Пусты пакунак і напаўналіты кубак — печыва скончылася раней за гарбату. Стос касэтаў: Accept, Бах, Español, ірляндзкая народная музыка... Кіпа мапаў — прадчуваньне чарговай вандроўкі. Каля парваных струнаў набор новых. Непамытыя бінты з крывёю ад мінулых трэніровак...

У хаосе яшчэ блізу дзьвюх дзясяткаў рэчаў, неістотных цяпер, бо гэта музэй мінулага тыдня, які быў цікавым і цяжкім. Ужо пачатак новага тыдня, а на стале яшчэ мінулы, і каб тут нешта пісаць, патрэбна ўсё прыбраць. Але цяпер не стае часу, ужо палова дзявятай — дачытаць "НН" і бегчы на заняткі.

Жудасна лянотна прыбіраць. Стол стане лепшым, калі здолею прымусіць сябе. Спадзяваньні на вечар.

Мае адносіны са сталом нагадваюць нешта большае.

### Алесь Белы

## РАДАСЬЦЬ

Радасьць...

Радасьць ад таго, што ўжо надыходзіць вечар і дзённая гарачыня зьляцела на захад, пакінуўшы для цябе менавіта такое паветра, у якім ляцець ні халодна, ні сьпякотна.

Радасьць ад таго, што ты стаіш па калена ў шырачэзнай асфальтавай рацэ, на якой — нікога й нічога, акрамя цябе. І ты — адзіны яе ўладар. І ты можаш стаяць, ляжаць, плыць па гэтым мяккім асфальце, адчуваючы, як ён паволі аддае назапашанае за доўгі летні дзень цяпло.

Радасьць ад таго, што едзеш у не набітым пад рыльца аўтобусе, які ад гэтага здаецца субмарынай, што паволі плыве ў тым самым, ні халодным, ні гарачым паветры, і яго кавалкі ўрываюцца праз расчыненае вакно і разьбіваюцца аб твой твар.

Радасьць ад таго, што зялёны "мэрс" зламаўся, прымушаючы чакаць свайго гаспадара ў ёлка-малінавым пінжачку і ягоную маладую спадарожніцу. Ты не злараднічаеш, ты проста шчасьлівы, што ня носіш такіх пінжакоў.

Радасьць ад таго, што вечар размаляваў неба імпрэсіяністычнымі мазкамі, а кавалкі празрыстых ватных аблокаў паволі рухаюцца і мяняюцца адзін з адным ціхімі адценьнямі.

Радасьць ад таго, што ціха і сумна, сумна ад гэтай незвычайнай радасьці ці ад адчуваньня, што яна вось-вось зьляціць ад цябе, адабраўшы асфальт, паветра і неба...

Радасьць.

Радасьць...

Ойвін Бальстад

# Наймацнейшы

Мінаў першы тыдзень пасьля дня "Д"*. Па ўсёй Нарвэгіі немцы разгарнулі стратэгічную папераджальную акцыю з узброенымі да зубоў патрулямі,ператрусамі ў аўтобусах і цягніках, начнымі аблавамі ў раёнах, дзе, на іхную думку, трэба было зрабіць калі не рашучы ўдар, то прынамсі надзвычайныя захады.

Сярод ночы зазьвінеў тэлефон у Асб'ёрна Колінга. Ён саскочыў з ложка і рвануў слухаўку. "Да!" — гаркнуў ён злосна. У слухаўцы доўга маўчалі. А потым загучаў шэпт, хуткі й надтрэснуты: "Яны едуць да Крысьціяна. Бяжы да яго. Хутчэй! У цябе на гэта некалькі хвілінаў, я стаю ля шапіка на вакзале!"

Заспаны Асб'ёрн адказаў: "Што за жарты? Хто едзе і...?!" І тут ён раптам апрытомнеў і асьлупянеў.

— Яны едуць, ты павінен..! Хто гэта? Гэта ты, Рольф? Рольф? Адкажы, я рызыкую галавой, стоячы тут.

— Гэта ня Рольф, — рэзка адказаў Асб'ёрн. — Вы памыліліся!

— Э, д'ябал, — прагучала горка й адчайна, а потым напорыста й энэргічна. — Калі Вы ведаеце Крысьціяна Дагэстада, то падскочце да яго і скажыце яму тое, што я сказаў, сьпяшайцеся, я тут стаю і не магу..."

Голас зьнік. Магчыма навальніца, што была за вокнамі, абарвала сувязь, а можа хто перапыніў яго. Асб'ёрн адчуваў: у дзьверы ўвайшоў нехта, хто не павінен быў пачуць размову. Ён, Асб'ёрн, атрымаў зьвестку і мусіў перадаць яе. Але той, хто тэлефанаваў, ня ведаў яго.

*Desant-Day – 6 чэрвеня 1944 г., калі войскі заходніх дзяржаваў высадзіліся ў Нармандыі.



**Ойвін Бальстад (нар. 1905),** нарвэскі пісьменьнік і драматург. Аўтар раманаў "Залатыя ланцугі", "Чырвоная бэгонія", "Танго сьмерці", п'есаў "Патрыёты", "Тэстамэнт старога Вінцэла".

— Я ўсё чула, — прашаптала Элна. Яна стаяла ля яго, спалатнелая, але з бляскам увачччу. Вочы зьзялі так дзіўна на невыразным, застылым твары. Зь немым страхам, але цьвёрда й рашуча, як падалося Асб'ёрну. На двары слаба шамацелі дрэвы. У Асб'ёрнавых вушах чуўся гул, які, здавалася, сыходзіў адусюль манатонным, магутным сьпевам, што мацнеў і мацнеў. Яго нібыта шпурлянула ў вір, які ўсё круціў і круціў яго, як цыклён, што налятае раптам на спакойны, мірны, зацішны куток і заграбае ўсё ў свае забойчыя абдымкі. І гэтае шамаценьне, сьпеў і гул віравалі ў ім, пакуль ён зрываў зь сябе піжаму, кідаў яе прэч і схапіўся за кашулю. Пальцы працавалі ліхаманкава й няспрытна. Ён выставіў правую нагу, і Элна насунула яму бот. Потым левую. Ён ірвануў на сябе вопратку, якую яна трымала ў руках. Усё адбылося ў некалькі сэкундаў, пакуль цыклён віраваў у ім, і раптам ён здрыгануўся са страху. Ён ведаў толькі: Я мушу плысьці на той бераг затокі! Ведаў адно, а жаласны голас усярэдзіне ўсё шаптаў: "Калі цябе схопяць, то будуць катаваць адмыслова доўга, таму што ты напалоханы, перапуджаны, баязьлівы мужык. Якраз ты адчуеш усё гэта, таму што тым людзям падабаецца такі матэрыял, як ты". — "Табе ня трэба плысьці", — крычаў у ім другі голас. — "Недарэка, — гукаў яшчэ адзін. — Ты не пасьпееш!" На ягоных вачах выступілі сьлёзы, ён шалеў. Элна стаяла й глядзела на гадзіньнік. Яна кінулася да дзьвярэй і закрычала: "Ты нікуды ня пойдзеш, Асб'ёрн, тудой ад горада дзесяць хвілін бягом, а ты ўжо змарнаваў шэсьць. Ужо позна! Я так не магу. Спачатку бацька, потым Райдар, а цяпер ты!"

Ён ведаў гэта, але ўсё адно мусіў зрабіць нешта. Ён ударыў яе, і яна паляцела на падлогу, а ён ірвануўся ўніз па лесьвіцы, тузануў парадныя дзьверы і вылецеў на двор. Тады зноў вярнуўся голас: "Ты ўдарыў Элну, і ты ўклаў ва ўдар усю сілу? Чаму? Таму што ты шалееш, баязьлівец, а яна павінна пакутаваць!" Голас пераследаваў яго. Асб'ён пераскочыў цераз сьцежку. Як Элна ўпала на лесьвіцу і ўдарылася галавой аб парог — гэта зусім ясна ўстала перад ім, калі ён улазіў у човен і выцягваў вёслы. Біў-біў-біў, — казалі ўключыны, пакуль ён веславаў, як утрапёны. Куды б ён ні зірнуў, паўсюль сустракаў вочы Элны. Бераг раптам вырас перад ім у цемры, як счарнелы начны цень. Не зважаючы ні на што, ён скіраваў човен на прыпаромак, і той наўскось урэзаўся ў пясок. Ён выскачыў з чоўна і сігануў уверх па адхоне, пачаў караскацца на ўзгорак. Потым бег па прыступках. Пераскочыў цераз плот і ўпаў тварам проста ў размоклае балота на сьцежцы. Сэрца грукала пад самым горлам, рот хапаў паветра. Густы салодкі прысмак крыві зьмяшаўся са сьлінай, што душыла яго. Ён спатыкнуўся, паляцеў кулём, папоўз на карачках і так пераадолеў апошнія ўступы скалы. Дом стаяў перад ім. Дарога рэзка ішла ўніз на другім баку скалістага адхону да самага берагу і ўпіралася ў драўляны прыпаромак. Ён пераскочыў цераз агароджу і ў гэтае ж імгненьне пачуўся грукат машыны, якая ўзьяжджала ў садовую браму. На хвіліну ён здранцьвеў, потым ўголас прашаптаў сам сабе: "Элна!" Нахіліўся, схапіў камень з агароджы і шпурлянуў з усяе сілы ў вакно. Бразгат разьбітай шыбы яшчэ гучаў у ягонай галаве, а ён, замест таго, каб лезьці ўніз па скале, скочыў наперад, пасьлізнуўся, шпарка прабег наўскось праз мурог і пашыбаваў па сьлізкай дарозе. Крыкі за сьпінай зьліліся ў дзікі вой і ён з захапленьнем адчуваў, як кулі падалі пад ягонымі нагамі, утрапена сьмяяўся, а сьлёзы цяклі па ягоных шчаках. Ён ускочыў у калдобіну, пачуў хрыпаты аўтаматны трэск з дарогі і бзычэньне сотняў пчолаў перад самым тварам. Але кулі трапілі ў жвір. Ён выпрастаўся зноў.

Шырокая пасма сьвятла дрыганулася ў паветры і сьлізнула па дарозе. Ён ясна бачыў перад сабой кожнае залітае сьвятлом дрэва. Цёмныя вывы мільгацелі перад вачыма, а дождж куляў глуха ляпаў па ствалах. Ён зноў выскачыў з калдобіны, пабег праз поле. Урэшце дасягнуў берага. Кожны крок даваўся цяжка, ногі наліліся сьвінцом. Усяго некалькі мэтраў засталося да прыпаромку! Але ён трапіў у сьвятло. Яму падалося, што ён зьнерухомеў, што час спыніўся. Ён ня чуў аўтаматных чэргаў, калі скочыў праз акрайчык прыпаромку і даў нырца з такім пляскам, што тыя наверсе зразумелі, у які бок ён падаўся...

Крысьціян Дагэстад пачуў, як бразнула й разьляцелася шыба. Ён скаціўся з канапы, падышоў да вакна, адчыніў яго, вылез і аўтаматычна зачыніў вакно за сабою, прабег скачкамі па жвіры, пралез да жываплоту, ускараскаўся на агароджу і ўпаў наўсплась жыватом, сьціснуўся і зьдзіўлена ўслухоўваўся ў страляніну ды ўглядаўся ў немцаў, што беглі па дарозе на прыпаромак. Тады ён падняўся і кінуўся праз агароджы і палі, перасек гасьцінец і ўскочыў у лес. Ногі ледзь дакраналіся да зямлі. Яго, здавалася, перапаўняла неверагодная сіла. Але далей на парослым лесам узгорку ён паваліўся нібы ад удару ў сьпіну. Так, яго ахапіла паніка. Лепш паляжаць, аддыхацца і падумаць. Праз дзьве гадзіны ён пралез у спальню.

"Ня ведаю, — адказаў ён на пытаньне, — уявіць не магу, хто гэта мог быць. Пэўна ня Рольф, але той чалавек выратаваў мне жыцьцё!.. Выратаваў, можа, ня толькі мяне, можа, усю нашую групу!"

Крысьціян задумаўся і раптам гукнуў: "Яны ледзь не пасьпелі! Я пачуў бразгат, а ён кінуўся наўцёкі. Ледзь не пасьпелі. Не! Ён ня вырвецца. Яны ж літаральна віселі на ім!"

А Асб'ёрн даў нырца і хутка вынырнуў, апынуўшыся сярод залітай сьвятлом затокі. Ён пачуў, як яны

# Паміж тубэркулёзам

## Турэмны дзёньнік

Заканчэньне. Пачатак у нумарах 13-14 і 15-16.

15 ЛЮТАГА (СУБОТА)

Запісваю ў майстэрні Алеся Пушкіна (Віцебскага). Тут утульна, як дома. Схадзілі ў лазьню, дзе пазнаёміліся з акторам тэатра імя Якуба Коласа Тадэвушам Антонавічам Кокштысам. Чалавек зь Віцебскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту пазнаў нас з Пушкіным. Днём хадзілі на в. Воінаў-інтэрнацыяналістаў, 19, дзе ў памяшканьнях маладзёжна-дзіцячага цэнтру "Маладзік" разгорнутая выстава Алесевых твораў. Праз некалькі тыдняў некаторыя яго працы будуць зьнятыя распараджэньнем чыноўніка ўпраўленьня культуры. Вырвуць таксама старонку з кнігі водгукаў, на якой запісаў я Пушкіну свае пажаданьні.

18-ГА, АЎТОРАК

Дзень. Спаў дрэнна, хоць і моцна хацеў. Ізноў за старое —прыйшоў дзед Ананія. Сустрэліся са Зьміцерам В., які перадаў 1.500.000, сабраных 27-га ліпеня летась на апазыцыйным мітынгу. Пілі тутэйшы портэр. Зь Вітаўтам Ч. бавіліся ў "Вясьне".

21 ЛЮТАГА (ПЯТНІЦА)

Новы этап — я ў энным сталічным шпіталі папраўляю здароўе. Многа нашых сярод мэдыкаў, глядзяць кіно "Обыкновенный президент", чытаюць "Менскую вясну" і ўсё той жа "сатанінскі" верш.

На старонцы, якую вырвалі з "Кнігі водгукаў" на выставу твораў мастака Алеся Пушкіна было і напісана ўсяго толькі:

*"Дружа Пушкін!*
*Нас не закрыць! Нас не спужаць!*
*Мы будзем жыць і маляваць,*
*мы будзем любіць прыгожых жанчын,*
*будзем зьдзяйсьняць Беларускі Чын!.."*

22-га, субота. Ноч перабылі ў палацы. Раніцай прыйшла ма-а-агутная мэдсястра, зьмерыла ціск (130х90). Ну й жанчына, так бы й зьеў... Зь пярсьцёнкам на правай.

Абед: буракі ці малочны суп, на выбар, рыс бяз солі з морквай і некалькімі кавалачкамі мяса, кампот. Ізноў заходзіла магутная. Ціск упаў (125х80). Магутная пахне лакам і... чорныя валосікі на руках. Колющь вітаміны і нікатынку (нікатынавую кіслату).

27 ЛЮТАГА (ЧАЦЬВЕР)

Вялікая Жанчына прыходзіла з паведамленьнем, што яна зацікавала ад мяне. Мэдыцына высьвеціла ў яе паўтары зародкі. Сюжэцік для фільма жахаў.

Днём выходзіў у горад, спаткаў знаёмую. Зайшлі ў "Лета", дзе выпілі "ярша". Знаёмая шукае моцнага мужчыну, каб нарадзіць ад яго адно, другое і трэцяе дзіця. Дзіва, у нас яшчэ знаходзяцца жанчыны, гатовыя ня толькі дражніць эпітэлію інтымных месцаў, але й нараджаць нашчадкаў!..

Едучы трамваем-сямёрачкай да Сьвярдлова вуліцы пачуў, як за сьпіною сталага веку пасажыр абяцаў другому, што дасьць па твары дачцы Шушкевіча С.С. (і гэта тым прасцей, што дачка мае дачу дзесьці побач з прыватнай тэрыторыяй ваяўнічага мужчыскі). А біць жанчыну старая вантроба зьбіраецца за артыкул яе бацькі, надрукаваны ў "Известиях". Якраз сёньня я прачытаў гэты матэрыял.

4 САКАВІКА (АЎТОРАК)

Выходзіў у горад. У скверы Панікоўскага выпіў бутэлечку піва, зайшоў у Нацыянальную бібліятэку — ці то газэты пагартаць, ці то за жанчынамі падсачыць. А можа ні тое, ні другое, а ўспомніць Х-59 віцебскага цэнтралу і ейных сядзельцаў з орагенітальнымі жаданьнямі...




Вечарам наведала мяне Валя S., прынесла яблычкаў, потым зайшла Валя Z. з прадуктамі й газэтамі. Пазнаёміў іх між сабою. Абедзьве — мэдыкі, адна мае сыноў, другая дачку; абедзьве —беларускі, у абедзьвюх — мужы, абедзьве любяць мяне... А я адзін, бясконца адзін і не магу, нікчэмны й слабы, не магу даць рады дзеду Ана-

корпаюцца ў чоўне Крысьціяна Дагэстада, але ня могуць адчапіць яго, настолькі добра ён быў умацаваны. Ён нырау і плыў, нырау і плыў. Кулі далятали на долю сэкунды пазьней. Ён нырнуў каля каменнага абрыву і паплыў пад вадой... Човен быў лёгкі, як пёрка, калі ён цягнуў яго да вады. Шырокімі ўскідамі ён веславаў каля берага, што затуліў яго, а потым плынь панесла яго далей у затоку. Схаваны цемрай, ён перасеў у самы малы прышвартаваны човен, не забыўся забраць з сабой вёслы і засунуў іх у будыніну для чоўнаў. Ён заўважыў, што ўсе астатнія чоўны былі зь вёсламі. "Хутчэй", —прашаптала яна. Ён кінуўся за ёю. Вада плюхала ў ботах. Як у сьне ён шыбаваў усьлед за ёй праз лясок, каля маёнтка, —увесь час наўпрасткі. На тым беразе затокі цяжкая машына прадзёрлася па бездарожжу, і над воднай паверхняй, як ветрык, раптам пранёсься шырокі вахляр сьвятла, соваючыся ў кожную ўпадзіну, ціснучы кожны прыпаромак, прачэсваючы кожную пяду мора.

Яны ўсталі перад дзьвярмі поруба, потым улезьлі туды. —"Здымай вопратку! Хутчэй!" — сказала яна дрыготка. Ён сарваў зь сябе адзежу, трośся і шоргаў цела. "Хутчэй! — рэзка зашаптала яна, — уставай і апранай піжаму. На стале бэнзыфініл. Вазьмі тры пігулкі і трасца зь імі!"

Ён выбраўся з поруба, а яна скруціла вопратку разам з ботамі. У спальні ён устаў і тупа ўтаропіўся перад сабой. Раптам апрытомнеў. Накінуў на сябе піжаму, схапіў пляшку зь лекамі са стала, узяў тры пігулкі, праглынуў і пачаў чакаць, што скажа голас, ці дасьць яму загад, што цяпер рабіць. Не, больш не пачулася нічога. Ён палез пад коўдру. Элна? У яго стукаталі зубы. Што здарылася? Ён ударыў яе? Пане Божа, як цяпер яму глядзець ёй у вочы? Як растлумачыць ёй, што ўсё было са страху, зь перапуду.

Сэрца стала працаваць больш напружана. Маленькі камяк засеў пад коўцікам, ён глынуў. Ледзь адчувальная, слабая дрыжака ахапіла цела. Лекі пачалі дзейнічаць. Толькі б яны адразу не прысунуліся ў ягоны дом. Яму трэба хаця б чвэрць гадзіны, каб гэтая заказа прыбадзёрыла яго. Увайшла Элна. Ён пачуў яе праз расчыненыя дзьверы, яна трымала пачатую пляшку "Боргера" і поўны ахапак адзежы, дала выпіць яму, сама глынула трохі і званітавала. "Чаму ты не зачыніла дзьверы?" — спытаўся ён хрыпата. Яна не адказала, сьцягнула зь сябе піжаму і, стоячы перад ім голая, пачала раскідваць порткі, куртку і сподні па падлозе. Ён аўтаматычна паўтараў усё за Элнай. Яна залезла пад коўдру і абхапіла яго рукамі, каб сагрэць. Ён прыгарнуў яе. Немцы, гестапа, Крысьціян, затока, вада, човен, уцёкі адступілі ад яго. Вусны Элны прыціснуліся да ягоных, ён адчуў скурай, як трамцяць ейныя грудзі і яе нага сьлізнула па ім. Ён адключыўся. Усё было забытае. Вакол нібыта гойдаліся і закалыхвалі болкі, а сонца працінала іх і саграваЛа, пякло да самых касьцей. Ён і не пачуў, як высадзілі дзьверы. Разгубленасьць і раздражненьне былі такімі натуральнымі, што тройка немцаў дружна зарагатала. Адзін зь іх з уедлівым сьмехам наблізіўся і адным махам сарваў зь іх коўдру. Элна закрычала, спрабуючы затуліцца. Асб'ёрн брыдка вылаяўся. Лейтэнант шпарка ўвайшоў з рэвальвэрам напагатове. Ён зразумеў сытуацыю і даў высьпятка цікаўнаму, разьвярнуўся і, кідаючы прабачэньне, вывеў жаўнераў. Яны ляжалі і чулі, як тыя тупаюць па лесьвіцы, выходзяць з грукатам праз дзьверы. Потым аддаленыя крокі па жвіры. І далёка гучныя камандныя крыкі. Як стукаюць у зачыненыя брамы. Усё далей і далей.



Прытомнасьць паволі вярталася да іх. Асб'ёрн рэзка таргануўся праз яе і, выхінуўшыся з ложка, званітаваў на падлогу.

Яны амаль канчалі, калі ўварвалася тройка немцаў.

Яны не спрабавалі нараўняць згубленае. Яна прытулілася да ягонага пляча з закрытымі вачыма. Аголеныя целы ляжалі шчыльна самкнёныя.

Пастулова супакоіліся сэрцы.

За сьнеданьнем яны, нібыта спахапіўшыся, узьнялі галовы і пагглядзелі адзін на аднаго. Праніклівa. "Хто ты такі?" — пыталіся іхнія вочы. — Ці я сапраўды ведаю цябе?"

Потым яны прымірэнча ўсьміхнуліся. Да іх вярнуліся сілы. І раптам, задраўшы галовы, яны зарагаталі. Але здаровым, добрым сьмехам.

— Не, не, — казала яна, калі ён нёс яе наверх, — ты спозьнісься ў кантору.

— Гары яна ясным агнём, — сказаў ён задорыста, — ня можам мы з-за markdown розны лухты абрываць песеньку. Пачнем з прыпеву.

**Пераклаў з нарвэскай**
**Валеры Буйвал**

# і пранцамі

**Славамір Адамовіч**



нію, гэтаму ўсясьветнаму агрэсару. Толькі ў турме я мог схавацца ад яго ці вось як цяпер, у шпіталі... Я праводзіў маіх Валянцін, але хутка адна зь іх вярнулася з баханам сьвежага хлеба для мяне. Хіба гэта не цудоўна: хлеб для мужчыны! Сіла, энэргія з жаночых рук — проста геніяльна!

6-га, чацьвер, любімы дзень тыдня. Ці не таму, што я "рыба" паводле гараскопу? Прыйшлося наведаць тубдыспансэр, дзе мне чарговы раз прасьвяцілі лёгкія. Даваў аўтографы, прымаў падзякі за верш ды пажаданьні здароўя.

7 САКАВІКА (ПЯТНІЦА)

Дзень хмарны. Ноччу пад шум дажджу сьніўся сон. Спачатку я знаходжу ў сваім ложку хлопца зь дзяўчынаю. Хлопец засынае, а дзяўчына йдзе па патрэбе. Яна сікае проста на падлогу, як котка, ад чаго ў мяне ўзьнікае жаданьне авалодаць ёю. Прачынаецца хлопец. Потым разьбіты шматкватэрны дом, я пераступаю па руінах, хачу сабраць ацалелыя беларускія кніжкі, мініятурны калаўрот, нейкі антыкварыят. Але аказваецца, што тут жывуць людзі: зь цемры выплываюць інтэр'еры кватэраў з акуратна засланымі ложкамі, чыстымі кухнямі. Усё тут належыць ім. Я лішні, чужак...

Зайшла ў палату малышка зь в. Лагаза Лагойскага раёну, прасіла напісаць сачыненьне па-расейску. Перанесла інфэкцыйную хваробу, якая запаволіла яе фізычнае разьвіцьцё. А вось галасавыя зьвязкі не закранула. Гэта цікава і нават пікантна: чуць голас дарослай жанчыны, назіраючы перад сабою пятнаццацігадовага падлетка. Зрэшты, вымца ў яе разьвіта якраз нармальна, бо насамрэч дзяўчыне сямнаццаць.

11 САКАВІКА (АЎТОРАК)

На дзень нараджэньня прыяжджала да мяне Арганістка. Выбралася толькі праз месяц пасьля майго выхаду з турмы. Дзьве начы мы добра-ткі адшалелі. А днём хадзілі па крамах, куплялі прадукты; і гэта было прыемна — адчуваць сябе не адзінокім чалавекам, часткай ад цэлага, толькі бондачкай... Яшчэ пару гадоў без жанчыны — і я здохну, развалюся, састарэю і завяну. Як былы паэта N, толькі што не ад гарэлкі. Дарэчы, гэты N, гэтая гультайская дупа, прыцёгся 8-га да мяне, выпіў маю гарэлку, зганіў мае вершы, выкінуў у фортку два мае паэтычныя зборнікі. Лангальер! Казёл, блін! На другі дзень прыйшлося нам зь сябрам караскацца па дахах, каб дастаць тыя зборнічкі. Прыкольнае было б відовішча, каб зьняць на відэа: Адамовіч у пошуках уласнае паэзіі. Праўда, хрыбтом чую, што галоўныя "прыколы" нашага жыцця чакаюць нас наперадзе.

14 САКАВІКА (ПЯТНІЦА)

Раніца. Дождж. 12-га ў Штабе ўручылі мне "Гліняны Вялес" за кніжку верашаў "Каханьне пад акупацыяй", а таксама грашовую прэмію. Чуеш ты, начальнік шмонбрыгады віцебскага цэнтралу, мне заплацілі 50 даляраў амэрыканскіх. У цябе няма больш пытаньняў? Тады шманай далей, камандзір. Такі твой лёс. Можа што і адшманаеш.

Вялікая Жанчына распавяла мне, як НЕ чакала мяне мая Арганістачка, як падкладалася яна пад сыфілітыка, ведаючы пра нездаровасьць партнэра, і як яна геніяльна НЕ захварэла на пранцы. Няўжо сапраўды можна не заразіцца, пераспаўшы з сыфілітычным? Што за містыка?

І ўсё ж я люблю цябе, мой правінцыйны друйскі нячысьцік. Я занадта жывы, каб мяне маглі адвярнуць твае бяздумныя здрады. Прырода ня ведае ня толькі дабра й зла, але й нячыстага... І сухоты, і пранцы можна адолець, толькі вось акупацыя — гэта невыносна, гэтую "хваробу" трэба выніщчаць як у нашых целах, так і ў душах. Акупацыя — як чума. Зьнішчы зачумленага, каб ня змог ён занесьці заразу ў цябе самога, у тваю сям'ю, тваю вёску, твой горад, тваю краіну... Зьнішчэньне чумы — сьвяты абавязак.

18 САКАВІКА (АЎТОРАК)

Вечарком зайшла Вялікая Жанчына, паклікала глядзець з гаўбца "камэту стагодзьдзя" Хейла-Бопа. Прыгожа, халера, проста казачна: вісіць у небе такая сабе таўстуха і вісіць. Гэта самае файнае "кіно", якое калі-небудзь я мог бачыць. Як і вы, я думаю.

20-ГА, ЧАЦЬВЕР

Сьнег, мароз, ананізм. Рыхтую матэрыял да кнігі па справе №182. Расказваюць, што ў "прэзыдэнцкім доме" для інтэлігенцыі атрымалі кватэры Акулін, Наварыч, Скобла, Пятровіч... Кола знаёмых, зь якімі можна вы-

Працяг на старонцы 14.

# Сто беларускіх кніг XX ст.

Рэдакцыя "НН" атрымала чарговую порцыю допісаў нашых чытачоў, якія дадаюць свае прапановы ў сьпіс "Сто беларускіх кніг XX стагодзьдзя". Нагадаю, што гэты рэйтынг найбольш значных выданьняў быў распачаты ў канцы мінулага году, а завяршыць яго мы мяркуем у канцы стагодзьдзя. Усе Вашыя прапановы будуць улічаныя ў выніковым сьпісе.

Лявон Дзейка з Клецку ўпершыню, акрамя ўласнага дадатку да надрукаванага ў "НН" сьпісу, даслаў і сьпіс кніг, з вылучэньнем якіх ён ня згодны. Такім чынам ён распачаў новы этап фармаваньня рэйтынгу — адбор, пры якім кнігі ня толькі дадаюцца і набіраюць галасы, але й адмаўляюцца.

Сярод названых сп. Дзейкам кніг упершыню згадваюцца паэтычныя зборнікі "Міласэрнасьць плахі" Рыгора Барадуліна і "Таемнасьць агню" Лявона Галубовіча, а таксама кнігі "Тэатральнае мастацтва Беларусі XVII ст." Барышава і "Іканапіс Беларусі".

Юры Чавусаў зь Менску дадаў наступныя кнігі: Дубоўка. Credo; Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце РБ; Разанаў. Шлях-360; Сіпакоў. Веча славянскіх балад; Сяднёў. Ачышчэньне агнём; Танк. За маім сталом. Упершыню згаданыя два раманы Івана Чыгрынава "Плач перапёлкі" і "Свае і чужынцы".

Людміла Судзілоўская з Гомеля дапоўніла: Арсеньнева. Магутны Божа; Багдановіч. Мушка-зелянушка і камарык насаты тварык; Быкаў. Сьцяна. "Адначасова, — піша сп. Людміла, — я лічу, што ў сьпіс абавязаны патрапіць патрыятычныя кнігі, вядомыя вельмі вузкаму колу ці то з прычыны вельмі малога тыражу, ці то наогул не выдаваліся ў Беларусі. А рэйтынг такі — 1:10, напр., да шырока вядомага "Дзікага паляваньня караля Стаха".

Можна дапусьціць, што найважнейшыя з гэтых кніг яшчэ будуць перавыдадзеныя да 2000 году і ўступяць у рэйтынг усё ж на роўных. Тады іх папулярнасьць цалкам можа падняць іх на высокае месца. Тым больш, што такія прэцэдэнты ў нашым сьпісе ёсьць. Новыя выданьні ці перавыданьні набіраюць вялікую колькасьць галасоў. Калі ж зрабіць так, як прапануе сп. Судзілоўская, то сьпіс атрымаецца суб'ектыўна-нашаніўскі, а ня "ўсіхны", які мы хочам стварыць.

Віталь Яцкевіч зь Менску далучыў да сьпісу "Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII-XVIII ст." і зборнік Міхася Калачынскага "Суквецьце".



Мікалай Максімаў з Рагачова дадаў: Быкаў. Сьцяна, Трэцяя ракета, Зося; Вядзьмак Лысагорскі. Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт; Далідовіч. Жар каханьня; Пятровіч. Сон між пачвар.

"Дзесяціразовая згадка твораў Васіля Быкава, — піша сп. Максімаў, — гэта мая даніна павагі пісьменьніку, бо мая нацыянальная сьвядомасьць пачыналася з твораў Быкава. Быкаў для мяне аўтарытэт. Калі ў вашым сьпісе столькі твораў Караткевіча, то лічу, што твораў Быкава павінна быць разы ў тры болей. Я лічу, што вартасьць твора трэба ацэньваць паводле якасьці, а не па колькасьці напісаных словаў".

Цікава, што сп. Мікалай ужо другі згадвае кнігу Васіля Быкава "Сьцяна", якую з ідэалягічных прычынаў адмовілася друкаваць выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Янка Храпавіцкі з Глыбокага разьвівае ідэю сьпісу "Сто кніг...": "Укладаньне літаратурнага гітпараду стаецца цікавай гульнёй, якая мае шанец, паводле Германа Гесэ, ператварыцца ў гульню з усімі сэнсамі ды каштоўнасьцямі беларускае друкаванае культуры. Таму прапанаваная Вамі ідэя мае атрымаць новыя, раней не прадбачаныя рысы, нюансы, кірункі. Усё залежыць ад Майстра Гульні".

Першае, што прапануе сп. Храпавіцкі ўключыць у Сьпіс — гэта перакладныя кнігі, якія, на ягоную думку, ня менш беларускія. Можна пагадзіцца, але гэта сапраўды — "іншая намінацыя".

Другая ідэя — выдаць і ўключыць у сьпіс анталёгію "НН" 1991-95 г. "Па ёй школьнікі XXI-га ст. будуць вывучаць гісторыю нашае штодзённасьці і літаратурны працэс нашага часу". Прапанова выданьня прымаецца. Гэтаксама як і прапанова выдаць "Анталёгію сучаснай беларускай паэзіі".

Прымаецца і трэцяя прапанова сп. Храпавіцкага. "Сьпіс кульгае на нашае аматарства і недасьведчанасьць. Таму цікава было б папрасіць скласьці агляд 100 лепшых кніг больш абазнаных у літаратуры людзей". Але зробім мы гэта пазьней, калі наш рэйтынг яшчэ больш аформіцца.

Наступная прапанова нашага чытача зноў зьвязаная зь іншай намінацыяй — "кнігі, пра якія мы марым". Добрая ідэя. І сьведчыць яна пра тое, што, па-першае, у самога Янкі Храпавіцкага ёсьць прытоенае жаданьне напісаць СВАЮ кнігу, а па-другое, што ў грамадзтве ёсьць чаканьне літаратуры, прычым нейкай новай, непадобнай на тое, што ўжо было.

Завяршае свой ліст сп. Храпавіцкі наступным чынам: "Напісаўшы гэты ліст, лёг спаць. І сасьніў дзівосны сон. Нібыта Глыбоцкая царква — Бабілёнская бібліятэка. У часе побыту ў ёй Напалеона там сапраўды было багата кніг. На дзівосных галерэях напаткаў я двух бібліятэкараў. Колішні вартаўнік царквы — брат Максіма Танка — паўстаў перад мною ў новым абліччы. У дзяцінстве мы, падлеткі, успрымалі яго як містычную асобу. Ён быў нямы, але нам заўсёды здавалася, што ён шмат мог бы распавесьці. Другім бібліятэкарам быў Вацлаў Ластоўскі. Народжаны на Глыбоччыне, ён адбіўся ў падсьвядомасьці ў сваім сапраўдным абліччы. Мы ўспрымаем тут Власта і Язэпа Драздовіча як двух нашых вялікіх вандроўнікаў-кніжнікаў. Шмат дыямэнтаў роднае мовы Власт знайшоў у нашым краі. Мяркую, што спадар Борхэс быў бы задаволены гэткім пэрсаналам".

Яўген Казінец зь вёскі Шылавічы на Вялейшчыне дадаў: Колас. Дрыгва; Лыч. Беларуская нацыя і мова; Лыч. Назвы зямлі беларускай.

Наш аўтар Вацлаў Арэшка склаў чатыры сьпісы: "1) кнігі, якія, на маю думку, безумоўна вартыя; 2) кнігі, якія напэўна вартыя; 3) кнігі, якія мне не хацелася б бачыць у гэтым сьпісе (пераважна з ужо намінаваных) і яшчэ некалькі пазыцыяў перакладаў, якія магчыма маглі б скласьці ў далейшым асобны сьпіс".

Сп. Арэшка дадае: Купала. "Яна і я" і "Спадчына" (але мюнхенскае выданьне); "Вянок" Багдановіча найлепшы — мюнхенскі; Станкевіч. Беларуска-расейскі (вялікалітоўска-расейскі) слоўнік; Латышонак. Беларускія вайсковыя фармацыі 1917-1923 (гэтая кніга выйшла па-польску); Бічэль-Загнетава. Даўняе сонца; Баразна. Гравюры Францыска Скарыны; Жывапіс Беларусі XII-XVIII ст.

А вось кнігі, якіх на думку В.Арэшкі, у сьпісе не павінна быць. Прычына — куцы матэрыял, шмат памылак: Мысьліцелі і асьветнікі Беларусі; Беларусь. Энцыклепэдычны даведнік; Сямашка. Армія краёва на Беларусі; Найдзюк, Касяк. Беларусь учора і сяньня; Беларуская мова. Энцыклятэдыя.

Нарэшце, пераклады: Максімюк — Джойс. Уліс; Мінкін — Норвід. Ідзі за мной; Шупа — М.К.Радзівіл. Пэрэгрынацыя; Шатон — Гусоўскі. Песьня пра зубра.

Жонка сп. Вацлава сп. Алена дадала наступнае: Малецкі. Пад знакам Пагоні; Лабынцаў. Пачатае Скарынам; Хлус, Юр. Здані і пачвары Беларусі.

Цяпер падвядзем вынік. Усяго ў нашым зводным сьпісе, куды заносяцца ўсе без выключэньня прапановы, 511 кніг. Сярод іх 44 кнігі, якія згадваліся нашымі чытачамі 10 і больш разоў. Вось гэты сьпіс (у дужках пасьля назвы — колькасьць галасоў, пададзеных за кнігу):

**Адамовіч, Брыль, Калесьнік. Я з вогненнай вёскі (11)**
**Аляхновіч. У кіпцюрах ГПУ (13)**
**Арлоў. Таямніцы полацкай гісторыі (11)**
**Арсеньнева. Пад сінім небам (16)**
**Багдановіч. Вянок (22)**
**Беларусь. Энцыкл. даведнік (12)**
**Быкаў. Знак бяды (18)**
**Быкаў. Сотнікаў (12)**
**Віцьбіч. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (15)**
**Гарун. Матчын дар (10)**
**Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры (13)**
**Гарэцкі. Рунь (14)**
**Геніюш. Ад родных ніў (10)**
**Геніюш. Споведзь (20)**
**Дайнека. Сьлед ваўкалака (10)**
**Ермаловіч. Па сьлядах аднаго міта (15)**
**Ермаловіч. Старажытная Беларусь (20)**
**Ігнатоўскі. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (15)**
**Караткевіч. Дзікае паляваньне караля Стаха (18)**
**Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі (11)**
**Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім (15)**
**Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (12)**
**Караткевіч. Чорны замак Альшанскі (15)**
**Кіпель. Беларусы ў ЗША (10)**
**Колас. На ростанях (10)**
**Колас. Новая Зямля (19)**
**Купала. Жалейка (16)**
**Купала. Спадчына (14)**
**Ластоўскі. Гісторыя бел. (крыўскай) кнігі (10)**
**Ластоўскі. Кароткая гісторыя Беларусі (16)**
**Ластоўскі. Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік (11)**
**Маўр. Палескія рабінзоны (11)**
**Мележ. Людзі на балоце (13)**
**Разанаў. Вастрыё стралы (10)**
**Сагановіч. Невядомая вайна (16)**
**Смоліч. Геаграфія Беларусі (17)**
**Сямашка. Армія Краёва на Беларусі (10)**
**Тарасаў. Памяць пра легенды (15)**
**Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школ (21)**
**Ткачоў. Замкі Беларусі (10)**
**Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (14)**
**Цётка. Хрэст на свабоду (10)**
**Чаронка. Імя ў летапісе (12)**
**Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі І і ІІ т. (13)**

Чакаем Вашых лістоў.

**Крыт.**

# і пранцамі

нага кантакту — падымае вышэй гузку (калі, вядома, яна ляжыць на сьпінцы). Падымем жа вышэй нашыя дупы, каб не схіляць галавы! (Вось лёзунг твой, забыты краю родны).

"Дзень аб'яднаньня народаў Беларусі й Расеі" — такія транспаранты вісяць над праспэктам Ф.Скарыны. Хочацца сказаць: "дзень аб'яданьня".

5 сутак адбыў на Акрэсьціна, у спэцразьмеркавальніку. У 17-й сядзелі ўсе свае. Адно й было размоваў, што пра барыкады, тактыку вулічнага бою, нацыянальнаю рэвалюцыю, партызанскую вайну... Як сказаў адзін зь сядзельцаў, палец ужо ляжыць на спускавым кручку.

***

Вынік амбівалентнасьці — культура і прагрэс, камфорт і дэградацыя экасыстэмы. Але яшчэ горш — адналінейнасьць, простасьць.

Кожны дзень я абяцаю сабе стаць правільным — і цярплю фіяска. Я ізноў п'ю свае сто грамаў, палю цыгарэту і заходжуся ад жаданьня палюбіць вось тую, студэнтачку мастацкай акадэміі Жэньку, ці вось гэтую, гадоў 38 з паловаю, якая хоча ГЭТАГА як-небудзь незвычайна.



***

Сёньня мне было цікава. Але яшчэ цікавей будзе заўтра, бо па-над усімі лёзунгамі й заклічкамі паўстае галоўны: Patria o muerte! Так і ня йнакш пастаўлена пытаньне. Прынамсі, перада мной.

СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТАГОДЗЬДЗЯ



# Марк Антакольскі. Помнік Кацярыне II

*Помнікаў два —*
*Мураўёў..*
*Кацярына..*
*Пры іх дзень і ноч*
*Стаіць варта —*
*Ад птушак гарэзных*
*Гарэзных людзей.*
*Гарадавыя пры іх*
*Нерухомы, як мармур,*
*І пышны пагрозьлівы мармур*
*Вартуюць як скарб.*
**Зьмітрок Бядуля. Віленскія помнікі.**

... Кім усё ж былі перасоўнікі, якія ці не ўпершыню ў гісторыі паставілі перад мастацтвам сацыяльныя задачы? Дэмакратамі, лібэраламі ці найперш расейскімі патрыётамі? Сярод доўгае чарады жывапісцаў, скульптараў і графікаў самага рознага ўзроўню і кшталту, мы сапраўды знойдзем толькі адзінкі асобаў прывілеяваных станаў. Зь іншага боку, за заклікамі да рэалізму і дэмакратычнасьці, дзясяткі перасоўнікаў з посьпехам рэалізоўвалі свае працы і ў царскі двор і ў рукі заможных мэцэнатаў. Так ці інакш, Расейская імпэрыя ацаніла сваіх патрыётаў своечасова... Другое пакаленьне, пасьля "арцельшчыкаў", ужо ня бачыла заганы для сябе ня толькі спакойна вучыцца на дзяржаўным пансіёне, але пазьней і атрымліваць пасады і чыны ў самой Акадэміі...

... З канца 1860-ых гадоў, патрэба ў масавай прапагандзе на абшарах Беларусі, Літвы і Польшчы прыцягнула сюды вялікае кола расейскіх мастакоў, архітэктараў і навукоўцаў. Як пасьля дажджу па ўсім нашым краі расьлі "мураўёўкі", новыя імпэрскія манумэнты. Ужо ў 1864 годзе ў Вільні была праведзеная выстава ўбраньня і рэчаў літургічных — дзеля прапаганды расейскага духу. Прысланыя з Расеі дойліды, прафэсар Акадэміі Рэзанаў і Чагін (з 1864 году галоўны архітэктар Віленскае губэрні), ачолілі царкоўна-будаўнічы камітэт, які за год надрукаваў 1920 праектаў праваслаўных бажніцаў. Толькі за два гады рупнасьцю губэрнатара Мураўёва ў "Северо-Западном крае" было ўзьведзена 93 царквы і 63 праваслаўныя капліцы, а ўсе, якія існавалі —126, былі адрамантаваныя. На пачатку XX ст. тэмпы манумэнтальнае прапаганды не сунімаліся. Наадварот, ніводзін юбілей не абыйшоўся без усё новых і новых стэлаў, бюстаў, помнікаў, капліцаў ці крыжоў. Колькасьць праваслаўных цэркваў толькі ў Вільні ў 1904 годзе склала 29, улучна з трыма манастырамі і двума саборамі. Большасьць зь іх яшчэ пахлі сьвежым тынкам...

... Дзеля такой грандыёзнай работы прыцягваліся кваліфікаваныя і таленавітыя творцы. Дзяржаўны заказ паглынаў вялізную долю таго, што прадукавалася ў майстэрнях Пецярбурга і Масквы, на тэрыторыю Беларусі траплялі ў вялікай колькасьці працы ня толькі салённых рамесьнікаў, але і сапраўдных клясыкаў мастацтва. Лёс распарадзіўся такім чынам, што сярод тых, хто быў у расейскім абозе, апынулася нямала мастакоў, якія паходзілі зь Беларусі. Сярод іх быў і Марк Антакольскі...

... Антакольскі нарадзіўся ў самым сэрцы старое Вільні, у суплёце крывых і цёмных вулак каля старажытнае сынагогі. Ягоны бацька, прававерны юдэй, шавец Мацей, меў маленькую майстэрню, адну зь дзясяткаў гэткіх самых ва ўбогіх жыдоўскіх кварталах. Уражаньні дзяцінства Антакольскі ўвасобіў у некалькіх раньніх працах, рэзаных з дрэва і косткі. Стары жыд, падсьлепаваты шавец выяўленыя з такой экспрэсіяй і з такім гіпэртрафаваным рэалізмам, што хутчэй яны падобныя на творы гатычных майстроў, на паўзабытыя, сьцёрты сьлед сярэднявечча. Зрэшты, там, дзе нарадзіўся Марк Антакольскі, у начным завулку можна было хутчэй пабачыць Голема, чым людскую постаць... Далёкія ад вонкавага сьвету і часу задушлівыя жыдоўскія кварталы Вільні жылі сваім жыцьцём. Пэрспэктыва ў юнака, атачанага рэлігійнымі й каставымі забабонамі, была адна...

... Вучоба ў Акадэміі, у далёкай ад Вільні паўночнай Пальміры, радыкальна зьмяніла жыцьцё маладога Марка Антакольскага. Падчас вучобы ў Пецярбургу яму давялося жыць у адным пакойчыку з такімі ж, як і ён, маладзёнамі Рэпіным, заўзятым тэатралам Мельнікавым, пазьней слынным опэрным сьпеваком. Праз іх любоў да новае радзімы станавілася ў яго прынцыповаю і ўсеабдымнаю. Ён зрабіў, здаецца, усё, каб пераканаць у гэтым Расею. Пад час паўстаньня 1863 году Антакольскі, які быў далёка ад радзімы, успрыняў яго, як і большасьць ягоных супляменьнікаў, больш чым асьцярожна. Тым часам, дзясяткі студэнтаў зь Беларусі пакідалі сталіцу Расеі і прападалі ў завірусе рэзыстэнцыі. Пасьля крывавага разгрому паўстаньня Вільня, спракавечная Вільня была ўжо ня тая... Вяртацца не было куды...

Антакольскі ўварваўся ў 1871 годзе ў сьвет высокага мастацтва "Іванам Жахлівым". Такіх твораў Расея яшчэ ня ведала. Чалавек іншага досьведу, гадаванец барочнага шумавіньня Вільні, зьдзьмуў з расейскае плястыкі клясыцыстычны пыл. Ён, па сутнасьці чужынец, здолеў убачыць у сатрапе пакутніка, прыгнобленага жахам сваіх учынкаў і боязьзю Неба. Мудры віленчук здолеў пабачыць нашмат больш за імпэтнага Рэпіна. У гэтым жа годзе Антакольскі атрымаў званьне акадэміка. Расея прыняла... Далей быў "Пётар Вялікі" (1872). Гэтая праца выяўляла цара пад час Палтаўскае баталіі. Ніякіх коней, плашчоў, вянкоў. Максымальная засяроджанась, пільнасьць, жарсьць, закутая ў адзін толькі позірк... З гэтага часу Антакольскі пачынае экспанавацца ў Таварыстве перасоўных выставаў. Яго ведала цяпер уся Расея. Шматкроць ягоныя працы экспанаваліся і ў Беларусі. У 1880 годзе ён займеў пасаду прафэсара. Ягоныя працы сталі клясыкай, іх ставілі на пастамэнты, капіявалі, рэпрадукавалі. Пазьней, ужо як свой, ён зблізіўся са сьветам нацыянальных расейскіх рамантыкаў —Несьцеравым, Васьняцовым, Урубелем і зь іншымі сябрамі абрамцаўскага кола пад патранажам мэцэната Мамантава.

Антакольскі быў зьнітаваны з Расеяй, здавалася, ужо непарыўна. Ягоныя "Нестар-летапісец", што схіліўся над пэргамэнам, зух "Ярмак" ва ўборы віцязя, "Яраслаў Мудры", "Іван III" акрэсьлілі расейскую школу гістарычнага партрэту. Лягічным працягам гэтае нізкі вобразаў стала і "Кацярына II". Аднак, са скульптуры ў скульптуру пакрысе пачынае сачыцца штамп, памкненьне да натуралізму пераходзіць у павярхоўнасьць рэгістратарства...

Паралельна Антакольскі ймкнецца да таго, што адчувае лепей... Вобразы біблейнага народу, прарокі і пакутнікі, ціхія й мудрыя, ягоныя супляменьнікі ў атачэньні счужэлага сьвету, які становіцца ўсё жарстчэйшым, ніколі не пакідалі ягонага ўяўленьня. "Хрыстос перад судом народа" (1874) быў створаны скульптарам ужо тады, калі ён быў на вяршыні славы. Нешта не давала творцу спакою. Нешта было ня так. Стварыўшы расейскую галерэю, ён зрабіў і "Сьпінозу". Віленскае грукала ў сэрца. "Мэфістофэль"(1883) — хімэра зь віленскіх касьцёлаў, злы і пусты сатыр. Тут Антакольскі змучыў фактуру, перагрувасьціўшы яе мэтафорыкаю. Як узгадваў пазьней, ён хацеў назваць гэтую працу "Дзевятнаццатым стагодзьдзем". Бура неўзабаве ўлягалася, і Антакольскі зьвярнуўся да доўгае чарады біблейных вобразаў, пакорлівых і ўзьнёслых...

Тым часам расейскія ўлады перайначвалі Вільню, як маглі. Паўставалі ўсё новыя цэрквы і помнікі. Па ўсёй Расеі йшлі зборы сродкаў на абрусеньне краю. Грандыёзнай акцыяй, якая скаланула нацыянальныя расейскія пачуцьці, стаў збор сродкаў на помнік кату паўстаньня 1863 году Мураўёву. Гэты помнік ня раз пасьля быў асьмяяны. І праўда, яго рабілі не вялікія скульптары, а выкладчыкі маляваньня, краязнаўцы, Трутнеў і Гразноў. Праз шэсьць гадоў, пасьля пабудовы ў Вільні помніка Мураўёву, дачакалася свайго манумэнту і Кацярына. Ідэя паўстала яшчэ ў 1895 годзе з нагоды стагодзьдзя анэксіі Беларусі. Пасьля конкурсу быў зацьверджаны праект Антакольскага...

Гэта быў відавочны трыюмф скульптара. Па-першае, вобраз Кацярыны II быў грунтоўна распрацаваны пляядаю найлепшых мастакоў і скульптараў, і ня толькі расейскіх. Сказаць нешта новае было па-сапраўднаму цяжка. У скульптуры былі ўжо створаныя такія шэдэўры Растрэлі, Фальканэ, Шубіна, якія сталі клясыкай яшчэ ў XVIII ст. Перад Антакольскім да постаці Кацярыны зьвярнуўся і Міхал Мікешын (1835-96), беларус, адзін з найбольш выбітных скульптараў Расеі, аўтар манумэнтаў "Тысячагодзьдзе Расеі" ў Ноўгарадзе і Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве (эскіз у Менску, ДММ). Мікешынская Кацярына, шмат у чым паўтараючы манумэнт у Ноўгарадзе (постаць на "звоне", пад якім сядзяць кацярынінскія "арлы"), пастаўленая ў сэрцы расейскае сталіцы, на Неўскім, пры ўсёй тэхнічнай дасканаласьці, пры пільным, "літаратурным" пранікненьні ў вобразы, стала аднак прэтэнцыйным эклектычным дадаткам да дасканалага й халоднага клясыцыстычнага ансамблю, што, зрэшты, адпавядала густам канца XIX ст. Пры ўсёй сваёй беларускасьці (пра што сьведчыць Альгерд Абуховіч — графічныя лісты, падпісаныя беларускімі прымаўкамі), Мікешын быў далёкі і ад нацыянальнага руху і ад лібэралізму наогул, ён патрапляў кан'юктуры і сьведама яе эксплюатаваў... А Антакольскі ўсё жыцьцё ўдаваў шчырасьць.

Па-другое, гэта была найбуйнейшая праца Антакольскага, манумэнтальны ансамбаль, разьлічаны на завязку новае кампазыцыі старасьвецкага пляцу ў сэрцы Гедымінавага места. Барочны горад з паблажлівасьцю прыняў новы манумэнт, даў яму месца паміж карунаў старадаўніх муроў і шалам найноўшае эклектыкі. Сам матыў — постаць са скіпэтрам у руцэ, перагукаўся з шыхтом статуяў Сьв. Казімера ў нішах Катэдральнага сабору, насупраць якога і стаяў манумэнт расейскае імпэратрыцы. Праз пэўны час ён, бадай, цалкам бы зьліўся з гэтым местам, у цені старадаўняга сабору. Кацярына Антакольскага хутчэй падобная да адной зь безьлічы віленскіх сьвятых, замілаваная і пекная. Драпежныя расейскія арлы, якія фланкуюць сам помнік, нібы прыселі на старажытны брук Катэдральнага пляцу сярод галубоў і варонаў.

Па-трэцяе, помнік быў прызначаны для Вільні, роднага места скульптара. Дом ягоных бацькоў быў літаральна ў пяці хвілінах хады ад таго месца, дзе паўстаў манумэнт.

Нягледзячы на тое, што праца над помнікам вялася ўжо з 1895 году, расейская казна вынайшла сродкі значна пазьней. Замест бронзы давялося ўжыць чыгун. А Антакольскі памёр за два гады да таго, як манумэнт быў адкрыты...

Амаль адразу, як помнік быў адкрыты, ён стаў аб'ектам зьдзекаў з боку моладзі. Набліжаўся 1905 год... Пры помніку ўвесь час стаяла варта, бароначы мармур і чыгун ад зьдзеку мясцовых патрыётаў. Пра гэта дасьціпны Зьмітрок Бядуля нават склаў паэмку. Мінула толькі дзесяць гадоў і помніка ня стала. У бурапене часоў вайны Нямеччыны з Расеяй чыгун зьвезьлі.

Сярод беларусаў засталося і спачуваньне да гэтага найбуйнейшага твору найбуйнейшага скульптара. Гарэцкі ўклаў у вусны свайго героя зь "Віленскіх камунараў" Мацея Мышкі і такі пасаж: "А як прыгожа стаяла на Катэдральным пляцы пышная чыгунная Кацярына Вялікая, горда выставіўшы высокія грудзі! Цяпер яе няма, было і быльлём парасло, але помнік быў харошы, бясспрэчна".

Пазьней, у 30-я — 50-я гады творчасьць Антакольскага шырока прапагандавалася ў СССР, як яскравы ўзор рэалізму. Зьлепкі і копіі зь ягоных працаў патрапілі амаль у кожны музэй Беларусі. Такой пасьмяротнай славы не дастаў Мікешын. Праўда, "Кацярыну II" забылі. Яна засталася хіба ў беларускай мастацкай літаратуры.

А ў Вільню Антакольскі так і ня здолеў вярнуўцца ніякім чынам...

**Сяргей Харэўскі**

**Марк Антакольскі** (1843, Вільня — 1902, Пецярбург). Скульптар, майстар дэкаратыўнага мастацтва, пэдагог. Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Вільні. Скочыў Пецярбурскую Акадэмію Мастацтваў (1862-68). Пазьней тамака выкладаў. З 1871 году — акадэмік, з 1895 — прафэсар. Сярод вучняў — Ільля Гінцбург, родам з Горадні.

# Ліст са Здраўнёва

Рэдакцыя атрымала водгук на артыкул "І.Рэпін. Беларус" ад старэйшага навуковага супрацоўніка музэя-сядзібы І.Рэпіна "Здраўнёва" Валерыя Шышанава.

Аўтар допісу, паважаны дасьледчык, зьвяртае маю ўвагу на недакладнасьці ў памянёным тэксьце ("НН", №15-16). Сярод іх найбольш істотныя: няслушна названы музэй, у якім знаходзіцца рэпінскі "Беларус" і дата пабудовы сядзібы ў Здраўнёве. Сапраўды, карціна знаходзіцца ў Расейскім музэі ў Пецярбургу. Прыношу свае выбачэньні чытачам і спадару Шышанаву. Што да даты пабудовы, то тут звычайная тэхнічная апіска (чытаць трэба — 1892, а не 1882).

Спадар Шышанаў значна пашырыў тэму творчасьці і побыту Рэпіна ў Беларусі, зьвярнуўшы ўвагу на найноўшыя досьледы, якія істотна дадаюць да нашага ўяўленьня пра гэтага вялікага мастака. У прыватнасьці, аўтар напісаў пра тое, хто купляў "сацыяльныя" карціны Рэпіна — "Бурлакоў" набыў вялікі князь Уладзімер Аляксандравіч, "Запарожцаў" — Аляксандар III, а таго "Беларуса" — імпэратрыца Марыя Фёдараўна. Гэта яна падаравала яго Расейскаму музэю. У Здраўнёве Рэпін, як заўважае сп. Шышанаў, працаваў і над біблейнымі тэмамі, у прыватнасьці, над "Гальготаю", "Спакушэньнем Хрыста", абразамі "Хрыстос з чашаю", "Маці Божая зь дзіцём", ілюстрацыямі да амстэрдамскага выданьня Бібліі. У 1898 годзе ён зрабіў падарожжа ў Палестыну.

Вельмі істотнае ўдакладненьне, якое зрабіў аўтар, гэта тое, што "сьлепату" беларуса, які быў мадэльлю Рэпіну, прыдумаў А.Падліпскі, зь лёгкае рукі якога гэтую містыфікацыю паўтаралі. Але, як вынікае зь ліста самога Рэпіна Язэпу Варонку за 1926 год, гэта няпраўда. У тым лісьце згадваецца і сапраўднае прозьвішча селяніна — не Шаўроў, а Шавура. Сам па сабе факт такое перапіскі знамянальны, напэўна, гэтай тэме яшчэ будуць прысьвечаныя новыя публікацыі.

Закранаючы тэму састарэласьці колішніх савецкіх крыніцаў, сп. Шышанаў зьвярнуў увагу і на тое, што, паводле апошніх зьвестак, Шагал нарадзіўся ня ў Лёзьне, а ў Віцебску...

На жаль, у нашай краіне не існуе такіх апэратыўных пэрыёдыкаў, дзе маглі б акумулявацца новыя адкрыцьці, новыя погляды, новыя тэмы, таму я вельмі ўдзячны за той багаты матэрыял, які нам быў дасланы (у прыватнасьці, кніга Яўгеніі Кічынай "И.Е.Репин и Здравнево", якая выйшла ў Віцебску), Вашыя заўвагі будуць карысныя нам і надалей.

**Сяргей Харэўскі**

"Наша Ніва"
незалежная газэта
НАША НІВА
заснаваная ў 1906,
адноўленая ў 1991
заснавальнік ........ Павал Жук
рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ БГФ "Наша Ніва"
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўск
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак
Віктар Корзун
вёрстка ........ Іна Жызьнеўская
набор ........ Тацяна Чуйвід
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі ........ Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36)

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 239-78-49
E-mail: edit@niva.minsk.by
Падпісны індэкс 63125

 Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. Наклад 4000. Нумар падпісаны ў друк 19⁵⁵, 11/5/1997. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2709. Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.